*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# Наша слова



Газета выходзіць з сакавіка 1990 года

№ 2 (1153) 8 СТУДЗЕНЯ 2014 г.

## Дарагія сябры “Нашага слова”!

У гэтым квартале адбылося нязначнае зніжэнне колькасці падпісчыкаў па некаторых абласцях і па горадзе Менску. Разам з тым высокую стабільнасць дэманструе Слуцка-Салігорскі рэгіён, хоць раптам упала падпіска ў Любані. Прадаўжае радаваць Кіраўск. Вырасла падпіска ў Берасці, Віцебску, Валожыне, Іўі, Слоніме, Шаркаўшчыне, Лідзе, Магілёве, Асіповічах, некаторыз іншых гарадах.

| | Кастрычнік | Студзень |
|---|---|---|
| **Берасцейская вобласць:** | | |
| Баранавічы р.в. | 18 | 19 |
| Бяроза р.в. | 9 | 10 |
| Белаазёрск р.в. | 1 | 1 |
| Бярэсце гор. | 14 | 16 |
| Ганцавічы р.в. | - | 1 |
| Драгічын р.в. | 1 | - |
| Жабінка р.в. | - | 1 |
| Іванава р.в | 2 | 2 |
| Івацэвічы р. в. | 12 | 10 |
| Камянец р.в. | 2 | 2 |
| Кобрын гор. | 1 | 1 |
| Лунінец гор. | 2 | 2 |
| Ляхавічы р.в. | - | 1 |
| Маларыта р.в. | - | 1 |
| Пінск гор. | 7 | 7 |
| Пружаны р.в. | 10 | 8 |
| Столін р.в. | 1 | 1 |
| **Усяго:** | **80** | **83** |
| **Віцебская вобласць:** | | |
| Бешанковічы р.в. | 1 | 1 |
| Браслаў р.в. | 1 | 1 |
| Віцебск гор. | 29 | 33 |
| Віцебск РВПС | 2 | 2 |
| Верхнедзвінск р.в. | 4 | 4 |
| Глыбокае р.в. | 5 | 5 |
| Гарадок р.в. | 5 | 4 |
| Докшыцы р.в. | 1 | 1 |
| Дуброўня р.в. | - | 2 |
| Лёзна р.в. | 1 | 1 |
| Лепель р. в. | 1 | 1 |
| Міёры р.в. | 3 | 3 |
| Новаполацк гор. | 12 | 13 |
| Орша гор. | 3 | 5 |
| Полацк гор. | 6 | 5 |
| Паставы р.в. | 18 | 16 |
| Расоны р.в. | 1 | 1 |
| Сянно р.в. | 2 | 2 |
| Талочын р.в. | 1 | 1 |
| Ушачы р.в. | 1 | 2 |
| Чашнікі р.в. | 1 | 1 |
| Шаркоўшчына р.в. | 6 | 8 |
| Шуміліна р.в. | - | 1 |
| **Усяго:** | **104** | **113** |
| **Менская вобласць:** | | |
| Беразіно р.в. | 3 | 3 |
| Барысаў гор. | 9 | 10 |
| Вілейка гор. | 3 | 2 |
| Валожын гор. | 8 | 12 |
| Дзяржынск р.в. | 8 | 7 |
| Жодзіна гор. | - | - |
| Клецк р.в. | 2 | 1 |
| Крупкі р.в. | 7 | 5 |
| Капыль р.в. | 2 | 5 |
| Лагойск | 6 | 5 |
| Любань р.в. | 4 | 1 |
| Менск гор. | 297 | 277 |
| Менск РВПС | 10 | 11 |
| Маладзечна гор. | 13 | 12 |
| Мядзель р.в. | 2 | 2 |
| Пухавічы РВПС | 5 | 3 |
| Нясвіж р.в. | 6 | 6 |
| Смалявічы р.в. | 2 | 1 |
| Слуцк гор. | 23 | 23 |
| Салігорск гор. | 71 | 71 |
| Ст. Дарогі р.в. | 1 | - |
| Стоўбцы р.в. | 4 | 2 |
| Узда р.в. | 2 | 1 |
| Чэрвень р.в. | 4 | 4 |
| **Усяго:** | **492** | **464** |
| **Гомельская вобласць:** | | |
| Буда-Кашалёва | 2 | 3 |
| Брагін р.в. | 1 | 1 |
| Ветка р.в. | 1 | 1 |
| Гомель гор. | 33 | 32 |
| Гомель РВПС | 2 | 1 |
| Добруш р.в. | 1 | - |
| Ельск р.в. | - | 1 |
| Жыткавічы р.в. | 10 | 11 |
| Жлобін гор. | 2 | 2 |
| Калінкавічы гор. | - | 1 |
| Карма р.в. | 2 | 2 |
| Лельчыцы р.в. | 3 | - |
| Лоеў р.в. | 1 | - |
| Мазыр гор. | 2 | 2 |
| Акцябарскі р.в. | - | 1 |
| Нароўля р.в. | 1 | - |
| Петрыкаў р.в. | - | 2 |
| Рэчыца гор. | 1 | 1 |
| Рагачоў гор. | 2 | 2 |
| Светлагорск гор. | 2 | 3 |
| Хойнікі р.в. | 1 | 1 |
| Чачэрск р.в. | 1 | - |
| **Усяго:** | **68** | **67** |
| **Гарадзенская вобласць:** | | |
| Бераставіца | 4 | 3 |
| Ваўкавыск гор. | 10 | 9 |
| Воранава р.в. | 4 | 5 |
| Гародня гор. | 40 | 37 |
| Гародня РВПС | 21 | 20 |
| Дзятлава р.в. | 14 | 14 |
| Зэльва р.в. | 3 | 3 |
| Іўе р.в. | 2 | 5 |
| Карэлічы р.в. | 4 | 4 |
| Масты р.в. | 4 | 3 |
| Наваградак гор. | 5 | 2 |
| Астравец р.в. | 6 | 6 |
| Ашмяны р.в. | 3 | 2 |
| Смаргонь гор. | 6 | 5 |
| Слонім гор. | 8 | 11 |
| Свіслач р.в. | 4 | 4 |
| Шчучын р.в. | 3 | 2 |
| Ліда | 14 | 16 |
| **Усяго:** | **155** | **151** |
| **Магілёўская вобласць:** | | |
| Бабруйск гор. | 4 | 5 |
| Бялынічы р.в. | - | 1 |
| Быхаў р.в. | 1 | 1 |
| Глуск р.в. | - | 1 |
| Горкі гор. | 1 | 1 |
| Дрыбін р.в. | 1 | - |
| Кіраўск р.в. | 19 | 19 |
| Клічаў р.в. | - | 2 |
| Клімавічы р.в. | 1 | - |
| Касцюковічы р.в. | 1 | 1 |
| Краснаполле р.в. | 1 | - |
| Крычаў р.в. | 1 | - |
| Круглае р.в. | 3 | 1 |
| Мсціслаў р.в. | 2 | 2 |
| Магілёў гор. | 36 | 46 |
| Магілёў РВПС | 1 | 1 |
| Асіповічы гор. | 11 | 13 |
| Слаўгарад р.в. | 1 | 2 |
| Хоцімск р.в. | - | 1 |
| Чэрыкаў р.в. | 1 | 1 |
| Чавусы р.в. | 1 | - |
| Шклоў р.в. | 3 | 1 |
| **Усяго** | **89** | **99** |
| **Усяго на краіне:** | **988** | **977** |

ISSN 2073-7033








# Ніл Гілевіч завяршыў выданне 23-томавага збору твораў

Напярэдадні Новага году выйшла апошняя кніга з 23-тамовага збору твораў Ніла Гілевіча, які народны паэт Беларусі выдаваў 10 гадоў за свой уласны кошт. У збор увайшлі рэчы, напісаныя больш як за 60 гадоў.

Укладаючы збор твораў, Ніл Гілевіч патрабавальна выбіраў найлепшае з напісанага. На жаль, кнігі выходзілі зусім невялікім накладам - некаторыя тамы толькі па 50-100 асобнікаў. Большую частку аўтар раздаваў родным, сябрам і знаёмым.

Паэт сціпла адмовіўся гаварыць пра значнасць завяршэння працы над 23-тамовікам, палічыўшы, што пра вынік ягонай 10-гадовай працы найлепш распавядуць бліжэйшыя сябры і чытачы. Але адзначыў, што гэта - не поўны збор твораў і не выбранае, а тыя творы, якія ён сам лічыць найлепшымі ў сваёй творчасці. Таксама Ніл Гілевіч пацвердзіў, што ўсе выдадзеныя кнігі надрукаваў за сваю невялікую пенсію:

- Гэта вялікі збор. Але ж гэта не поўны акадэмічны збор, поўны збор пры жыцці не выдаецца. Гэта проста вялікі збор. А поўны акадэмічны можа, будзе налічваць і 33 тамы, а то і больш. Гэта я лепшае адбіраў. Яшчэ на 7-10 тамоў засталося за бортам.

Я гэты збор выдаў за сваю дохлую пенсію. Ніводнага рубля ніякі спонсар мне не даваў. Я ж чытаю навіны і ведаю, як паэты на 20, 30, 40 гадоў за мяне маладзейшыя ездзяць па Еўропе, атрымліваюць ад спонсараў дапамогу. Вялікую дапамогу. А я - ні капейкі. Я ўсе 23 тамы за гэтыя 10 гадоў выдаў за свае грошы. У мяне тры тамы выйшлі па 50 экзэмпляраў. Некалькі тамоў - па 70, некалькі - па 100. Самае большае - гэта 100 экзэмпляраў. Гэта ж насмешка і здзек. Ну хоць бы 200, хоць бы 300. А дзе грошы ўзяць? Хто і дзе пачытае гэты збор? Толькі ў Нацыянальнай бібліятэцы. Бо астатняе я ўсё раздаў сваім родным і сябрам. А як жа?

Літаратуразнаўца і сяброўка паэта Лідзія Савік у 2003 годзе прысутнічала на прэзентацыі праекту выдання. Распавядаючы пра жанравую разнастайнасць збору, яна кажа, што праца, праробленая Нілам Гілевічам падчас стварэння 23-тамовіка, пад сілу хіба што цэламу літаратурнаму інстытуту:





- Найперш Ніл Гілевіч - паэт. Таму паэзія займае ажно шэсць тамоў збору. Гэта вершы, вершаваны раман "Родныя дзеці", паэмы, сатыра і гумар, літаратурныя містыфікацыі, цыкл гістарычных паэмаў, казкі і загадкі для дзяцей. Тры тамы займаюць пераклады са славянскіх моваў: балгарскай, расейскай, украінскай, польскай, славенскай, сербскай, харвацкай, лужыцкай, македонскай, чэшскай - усяго больш за 400 паэтаў. Ніл Сымонавіч не проста пераклаў гэтыя вершы, а перастварыў іх на цудоўнай беларускай мове, увёўшы безліч замежных паэтаў у беларускую літаратуру. Публіцыстыка, якая ўвайшла ў збор, - гэта прасякнуты болем роздум над сучасным жыццём, над становішчам нашай мовы, літаратуры і культуры.

Апошні том збору выдадзены пад нумарам 22, таму што 23-ці выйшаў раней.

Паэт Анатоль Вярцінскі назіраў, з якім пачуццём Ніл Гілевіч узяў у рукі завяршальны том сваёй працы:

- 29 снежня Ніл Гілевіч пабачыў наяве апошні том распачатага 10 гадоў таму выдання 23-томнага збору твораў. Пабачыў, патрымаў у руках і паставіў на сваё, адпаведна нумарацыі, месца, побач з падобнымі цёмна-сінягa колеру томікамі. Кажу як сведка. Бо акурат у гэты дзень традыцыйна наведваў Ніла Сымонавіча, каб пабачыцца і пагаманіць на мяжы двух гадоў, у тым ліку пра пэўныя вынікі 2013 году. І тут вось, амаль калядны цуд, падаспеў гэты добры, пазітыўны вынік.

Не глядзячы на ўсе неспрыяльныя абставіны, смела задуманы і рупліва падрыхтаваны маштабны выдавецкі праект канчаткова рэалізаваўся. Збор твораў у 23 тамах стаў фактам. І, трэба думаць, фактам не толькі творчай біяграфіі аўтара, але і ўсёй беларускай літаратуры, фактам грамадскакультурнага жыцця краіны.

Значэнне падзеі - не столькі ў вонкавых параметрах, колькі ў змесце, у таленавітасці і сэнсава-выяўленчай сутнасці, у маральным крэда аўтара. У дадзеным выпадку гэта крэда вельмі цэльнае, вытрыманае, паслядоўнае з твору ў твор, з аднаго тома ў другі.

*Радыё Свабода.*

# Юбілейныя і памятныя даты 2014 года

СТУДЗЕНЬ

**3 студзеня** - 70 гадоў з дня нараджэння **Міхася Раманюка**, вядомага беларускага мастацтвазнаўца і этнографа.

**6 студзеня** - 100 гадоў з дня нараджэння **Тодара Лебяды**, беларускага пісьменніка.

**7 студзеня** - 90 гадоў з дня нараджэння **Барыса Бур'яна**, тэатральнага крытыка, празаіка, сцэнарыста.

**8 студзеня** - 90 гадоў з дня нараджэння **Ўладзіміра Дадзіёмава**, беларускага празаіка.

**8 студзеня** - 75 гадоў з дня нараджэння **Барыса Мускага**, актыўнага сябра ТБМ.

**8 студзеня** - 10 гадоў таму ў штотыднёвіку "Наша слова" надрукавана **"Стратэгія** дзейнасці ГА "Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны" па развіцці беларускай мовы ў XXI стагоддзі".

**14 студзеня** - 80 гадоў з дня нараджэння **Уладзіміра Лазоўскага**, беларускага мовазнаўца, кандыдата філалагічных навук, прафесара.

**14 студзеня** - 75 гадоў з дня нараджэння **Васіля Шаранговіча**, народнага мастака Беларусі.

**17 студзеня** - 110 гадоў з дня нараджэння **Алеся Якімовіча**, празаіка, паэта, заслужанага дзеяча культуры БССР.

**18 студзеня** - 130 гадоў з дня нараджэння **Адама Лісоўскага**, беларускага грамадска-культурнага дзеяча, каталіцкага духоўніка.

**24 студзеня** - 110 гадоў з дня нараджэння **Янкі Шутовіча**, беларускага культурнага дзеяча, літаратуразнаўца.

**24 студзеня** - 75 гадоў з дня заснавання (1939) **Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі**.

**25 студзеня** - 210 гадоў з дня нараджэння **Антона Адынца**, паэта, перакладчыка, мемуарыста.

**25 студзеня** - 90 гадоў з дня нараджэння **Віктара Мартынава** (1924-2013), беларускага мовазнаўца.

**26 студзеня** - 450 гадоў таму (1564 г.) каля в. Іваньск (цяпер Чашніцкі раён), на р. Ула, адбылася **Ульская бітва** паміж войскамі Расіі і ВКЛ у час Лівонскай вайны.

**28 студзеня** - 125 гадоў з дня нараджэння **Язэпа Мамонькі** (1889-1937), беларускага палітычнага дзеяча і публіцыста.

**29 студзеня** - 130 гадоў з дня нараджэння **Антона Луцкевіча** (1884-1942), гісторыка, публіцыста, палітычнага і грамадскага дзеяча.



**29 студзеня** - 90 гадоў з дня нараджэння **Арцёма Ханькова**, беларускага мовазнаўца.

**31 студзеня** - 85 гадоў з дня нараджэння **Анатоля Грыцкевіча**, доктара гістарычных навук.

ЛЮТЫ

**4 лютага** - 80 гадоў з дня нараджэння **Арсеня Ліса**, фалькларыста, доктара філалагічных навук.

**4 лютага** - 80 гадоў з дня нараджэння **Міколы Савіцкага**, змагара за беларускую мову, кандыдата эканамічных навук, прафесара.

**6 лютага** - 100 гадоў з дня нараджэння **Аркадзя Куляшова** (1914 - 1972), народнага паэта Беларусі (1968 г.).



**8 лютага** - 100 гадоў з дня нараджэння **Валянціна Таўлая**, беларускага паэта.

**9 лютага** - 110 гадоў з пачатку **руска-японскай вайны** 1904 - 1905 гг. Тысячы беларусаў былі мабілізаваны і ўдзельнічалі ў ёй.

**11 лютага** - 150 гадоў з дня нараджэння **Люцыяна Ўзембы**, гісторыка культуры, краязнаўца, калекцыянера.

**12 лютага** - 90 гадоў з дня нараджэння **Аляксандра Капусціна,** беларускага празаіка, публіцыста, перакладчыка.

**12 лютага** - 80 гадоў з дня нараджэння **Міколы Янкоўскага**, беларускага фалькларыста, кандыдата філалагічных навук, дацэнта.

**14 лютага** - 190 гадоў з дня нараджэння **Антона Залескага**, мастака, удзельніка паўстання 1863-64 гг.

**15 лютага** - 110 гадоў з дня нараджэння **Ларысы Александроўскай** (1904 - 1980), спявачкі, опернага рэжысёра.

**15 лютага** - 25 гадоў таму (1989 г.) закончаны вывад савецкіх войскаў з **Афганістана**.

**16 лютага** - 90 гадоў таму (1924 г.) заснавана бібліятэка Інстытута беларускай культуры (цяпер Цэнтральная бібліятэка імя Якуба Коласа НАН Беларусі).

**17 лютага** - 75 гадоў з дня нараджэння **Мечыслава Курыловіча**, беларускага паэта.

**18 лютага** - 70 гадоў з дня нараджэння **Яўгена Будзінаса**, беларускага празаіка, нарысіста.

**19 лютага** - 150 гадоў з дня нараджэння **Вячаслава Адамовіча**, беларускага грамадска-палітычнага дзеяча, выдаўца.

**22 лютага** - 125 гадоў з дня нараджэння **Міколы Байкова** (1889-1941), педагога, лінгвіста, літаратуразнаўца.

**22 лютага** -75 гадоў з дня нараджэння (1939 г.) **Уладзіміра Бабкова**, гісторыка і палітолага, члена-карэспандэнта НАН Беларусі.

**26 лютага** - 90 гадоў з дня нараджэння **Мікалая Мельнікава**, беларускага літаратуразнаўца, пісьменніка-мемуарыста, кандыдата педагагічных навук, дацэнта.

**27 лютага** - 280 гадоў з дня нараджэння **Караля Станіслава Радзівіла** (мянушка Пане Каханку, 1734-1790), дзяржаўнага дзеяча ВКЛ, сына М.К. Радзівіла-Рыбанькі.

САКАВІК

**4 сакавіка** - 100 гадоў з дня нараджэння **Генадзя Шведзіка,** беларускага паэта.

**4 сакавіка** - 90 гадоў з дня нараджэння **Аляксандра Коршунава**, беларускага літаратуразнаўца, тэкстолага.

**8 сакавіка** - 100 гадоў з дня нараджэння **Якава Зяльдовіча** (1914 -- 1987), фізіка-тэарэтыка, акадэміка АН СССР (1958 г.), тройчы Героя Сацыялістычнай Працы (1949, 1953, 1956 гг.).

**10 сакавіка** - 125 гадоў з дня нараджэння **Уладзіміра Пігулеўскага**, беларускага грамадска-культурнага дзеяча, пісьменніка.

**12 сакавіка** - 100 гадоў з дня нараджэння **Уладзіміра Клішэвіча**, паэта.

**13 сакавіка** - 80 гадоў з дня нараджэння **Аўгінні Кавалюк**, беларускай паэткі.

**18 сакавіка** - 120 гадоў з дня нараджэння **Альбіна Стаповіча**, беларускага грамадска-культурнага дзеяча, кампазітара, музычнага педагога.

**20 сакавіка** - 125 гадоў з дня нараджэння **Часлава Родзевіча**, беларускага тэатральнага і грамадскага дзеяча.

**22 сакавіка** - дзень памяці **Кастуся Каліноўскага** (02.02.1838 - 22.03.1864), кіраўніка нацыянальна-вызвольнага руху, публіцыста, паэта. Заканчэнне паўстання на Літве і Беларусі.



**25 сакавіка** - 100 гадоў з дня нараджэння **Ганны Новік**, беларускай паэтэсы, празаіка.

**28 сакавіка** - 80 гадоў з дня нараджэння **Кастуся Цвіркі**, паэта, перакладчыка, выдаўца.

**Сакавік** - 30 гадоў таму ў Менску створаны культурна-асветніцкі клуб **"Спадчына"**.

КРАСАВІК

**1 красавіка** - 100 гадоў з дня нараджэння **Васіля Струменя**, беларускага і ўкраінскага паэта, удзельніка вызвольнага руху ў Заходняй Беларусі (20-30-я гг.).

**6 красавіка** - 110 гадоў з дня нараджэння **Міколы Хведаровіча**, беларускага паэта, празаіка, перакладчыка.

**13 красавіка** - 220 гадоў таму (1794 г.) пачалося паўстанне пад кіраўніцтвам **Тадэвуша Касцюшкі**.

**13 красавіка** - 70 гадоў з дня нараджэння **Ўладзіміра Лісіцына**, беларускага паэта.

**16 красавіка** - 150 гадоў з дня нараджэння **Аляксандра Слупскага**, гісторыка археолага.

**17 красавіка** - 75 гадоў з дня нараджэння **Анатоля Валахановіча**, гісторыка, журналіста, пісьменніка.

**18 красавіка** - 200 гадоў з дня нараджэння **Яўстафія Тышкевіча**, беларускага гісторыка, археолага, краязнаўца.

**18 красавіка** - 120 гадоў з дня нараджэння **Кастуся Пуроўскага**, беларускага фальклрыста спевака.

**20 красавіка** - 70 гадоў з дня нараджэння **Яўгена Лецкі**, беларускага літаратуразнаўца, пісьменніка, краязнаўца, кандыдата філалагічных навук.

**22 красавіка** - 75 гадоў з дня нараджэння **Валерыя Атрашкевіча**, беларускага літаратуразнаўца.

**23 красавіка** - 220 гадоў таму (1794 г.) у Вільні ўтвораны паўстанцкі ўрад ВКЛ - **Найвышэйшая рада літоўская народа**.

**23 красавіка** - 80 гадоў з дня нараджэння **Ўладзіміра Конана**, беларускага філосафа, літаратуразнаўца.

**24 красавіка** - 70 гадоў з дня нараджэння **Зянона Пазьняка**, беларускага грамадска-палітычнага і культурнага дзеяча, тэатразнаўца, археолага, публіцыста, паэта, кандыдата мастацтвазнаўства.



**25 красавіка** - 110 гадоў з дня нараджэння **Васіля Барысенкі**, беларускага літаратуразнаўца, крытыка.

**26 красавіка** - 50 гадоў таму (1964 г.) у **Маладзечне** адкрыты Менскі абласны краязнаўчы музей.

**27 красавіка** - 175 гадоў з дня нараджэння **Мсціслава Камінскага** (1839-1868), этнографа, фалькларыста, публіцыста.

**28 красавіка** - 75 гадоў з дня нараджэння **Зінаіды Бандарэнкі**, дыктара тэлебачання, народнай артысткі Беларусі.

**Красавік** - 150 гадоў таму (1864 г.) пачала дзейнасць Археалагічная камісія ў Вільні. Спыніла дзейнасць у 1915 г.

ТРАВЕНЬ

**1 траўня** - 100 гадоў з дня нараджэння **Алены Ленсу**, беларускага літаратуразнаўца, крытыка.

**1 траўня** - 80 гадоў з дня нараджэння **Міколы Корзуна**, беларускага празаіка.

**2 траўня** - 80 гадоў з дня нараджэння **Аляксея Гардзіцкага**, беларускага крытыка.

**2 траўня** - 70 гадоў з часу заснавання (1944 г.) у Менску **Літаратурнага музея** Янкі Купалы.

**6 траўня** - 110 гадоў з дня нараджэння **Паўлюка Труса**, беларускага паэта.

**11 траўня** - 70 гадоў з дня нараджэння **Марыі Шаўчонак**, беларускай паэткі, журналісткі.

**11 траўня** - 60 гадоў з дня нараджэння **Марыі Лойкі**, беларускага мовазнаўца, кандыдата філалагічных навук.

**12 траўня** - 60 гадоў таму (1954 г.) БССР стала членам **ЮНЕСКА**.

**19 траўня** - 150 гадоў з дня нараджэння **Васіля Іосіфавіча Гуркі** (1864 - 1937), расійскага ваеннага дзеяча, генерала ад кавалерыі.

**24 траўня** - 110 гадоў з дня нараджэння **Адама Русака**, беларускага паэта песенніка.



**27 траўня** - з дня нараджэння **Антона Бялевіча**, беларускага празаіка перакладчыка.

**28 траўня** - 90 гадоў з дня нараджэння **Леаніда Побаля** (1924 -- 2004), археолага.

ЧЭРВЕНЬ

**5 чэрвеня** - 160 гадоў з дня нараджэння **Юдаля Пэна**, беларускага жывапісца, педагога.

**8-14 чэрвеня** - 80 гадоў таму (1934 г.) адбыўся **I Усебеларускі з'езд пісьменнікаў.**

**10 чэрвеня** - 75 гадоў з дня нараджэння **Хведара Чэрні**, беларускага паэта.

**13 чэрвеня** - 180 гадоў з дня нараджэння **Кастуся Вераніцына** (1834-1904), верагоднага аўтара паэмы "Тарас на Парнасе".

**16 чэрвеня** - 425 гадоў з дня нараджэння **Альбрыхта Радзівіла**, дзяржаўнага дзеяча Вялікага Княства Літоўскага.

**16 чэрвеня** - 180 гадоў з дня нараджэння **Аляксандра Ельскага** (1834-1916) пісьменніка, гісторыка, этнографа, краязнаўца, публіцыста.

**19 чэрвеня** - 90 гадоў з дня нараджэння **Васіля Быкава** (1924-2003), народнага пісьменніка, Беларусі, грамадскага дзеяча.



**21 чэрвеня** - 150 гадоў з дня нараджэння **Аляксандра Сержпутоўскага** (1864-1940), беларускага этнографа, фалькларыста.

**22 чэрвеня** - 150 гадоў з дня нараджэння **Германа Мінкоўскага** (1864 - 1909), матэматыка і фізіка, аднаго з заснавальнікаў тэорыі адносных навук... 

**22 чэрвеня** - 90 гадоў з дня наравджэння **Івана Козырава**, беларускага мовазнаўца.

**22 чэрвеня** - 80 гадоў з дня нараджэння **Віктара Хаўратовіча**, беларускага паэта.

**23 чэрвеня** - 50 гадоў з дня нараджэння **Віктара Хруля**, вучонага ў галіне журналістыкі, сацыялогіі, кандыдата філалагічных навук.

**24 чэрвеня** - 50 гадоў таму (1964 г.) у в. Цімкавічы Капыльскага раёна адкрыты Мемарыяльны **літаратурны музей** Кузьмы Чорнага.

**24-25 чэрвеня** - 25 гадоў таму назад у Вільні адбыўся Устаноўчы з'езд Беларускага Народнага Фронту **"Адраджэньне"**.

**25 чэрвеня** - 220 гадоў таму (1794 г.) паўстанцкія войскі ВКЛ пацярпелі паражэнне ад расійскіх войск каля мястэчка **Солы**.

**25 чэрвеня** - 75 гадоў з дня нараджэння **Варлена Бечыка**, беларускага крытыка, літаратуразнаўца.

**26 чэрвеня** - 90 гадоў з дня заснавання (1924) у Празе **Аб'яднання беларускіх студэнцкіх арганізацый** (АБСА). Існавала да 1939 г.

**27 чэрвеня** - 210 гадоў з дня нараджэння **Рафала Слізня**, беларускага скульптара, жывапісца, медальера, архітэктара.

**27 чэрвеня** - 25 гадоў з дня **Устаноўчага з'езду** Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны.

**28 чэрвеня** - 130 гадоў з дня нараджэння **Вольгі Сахаравай**, беларускай паэтэсы, драматурга.

**28 чэрвеня** - 100 гадоў з дня нараджэння **Ўладзіміра Савіцкага**, беларускага празаіка, паэта.

**Канец чэрвеня** - 70 гадоў з часу правядзення II **Усебеларускаму кангрэсу**.

# Юбілейныя і памятныя даты 2014 года

**ЛІПЕНЬ**

**3 ліпеня** - 70 гадоў вызвалення Менска ў выніку **аперацыі Баграціён**.

**4 ліпеня** - 60 гадоў таму (1954 г.) у Менску адкрыты **Манумент Перамогі**.

**5 ліпеня** - 75 гадоў з дня нараджэння **Аляксандра Каранеўскага**, беларускага краязнаўца, журналіста.

**6 ліпеня** - 150 гадоў з дня нараджэння **Аўфрасінні Гарэцкай**, беларускай народнай спявачкі, маці Максіма Гарэцкага.

**6 ліпеня** - 25 гадоў таму (1989 г.) у Беларусі ўрачыста адзначалася **Купалле**. З таго часу адзначаецца яно штогод.

**7 ліпеня** - 90 гадоў з дня нараджэння **Яўгена Курто**, беларускага празаіка.

**10 ліпеня** - 60 гадоў з дня нараджэння **Ірыны Саматыі**, беларускага мовазнаўца.

**11 ліпеня** - 80 гадоў з дня нараджэння **Віктара Вуячыча**, беларускага спевака, народнага артыста Беларусі.

**15 ліпеня** - 100 гадоў з дня нараджэння **Вітаўта Рамука**, беларускага культурнага дзеяча на эміграцыі.

**17 ліпеня** - 90 гадоў таму (1924 г.) **тэрыторыя БССР** была падзелена на 10 акруг (100 раёнаў і 1202 сельсаветы).

**17 ліпеня** - 70 гадоў з дня нараджэння **Зінаіды Данільчык**, беларускага мовазнаўца.

**20 ліпеня** - 90 гадоў з дня нараджэння **Ўладзіміра Анічэнкі**, беларускага мовазнаўца.

**20 ліпеня** - 90 гадоў з дня нараджэння **Міколы Лук'янава**, беларускага празаіка.

**21 ліпеня** - 350 гадоў з дня нараджэння **Пятра Пузыні**, беларускага і польскага педагога, пісьменніка.

**23 ліпеня** - 75 гадоў з дня нараджэння **Анатоля Кірвеля**, беларускага пісьменніка.

**28 ліпеня** - 70 гадоў таму (1944 г.) войскі І-га Беларускага фронту вызвалілі г. Берасце ад нямецка-нацысцкіх акупантаў. Завершана вызваленне Беларусі ад акупацыі.

**ЖНІВЕНЬ**

**1 жніўня** - 100 гадоў з дня пачатку **Першай сусветнай вайны**.

**5 жніўня** - 90 гадоў з дня нараджэння **Аркадзя Жураўскага**, беларускага мовазнаўца.

**6 жніўня** - 130 гадоў з дня нараджэння **Яўгена Хлябцэвіча**, кнігазнаўца, літаратуразнаўца, кандыдата педагагічных навук.

**7 жніўня** - 60 гадоў з дня нараджэння **Алега Трусава**, старшыні ТБМ, кандыдата гістарычных навук.

**12 жніўня** - 100 гадоў з дня нараджэння **Міколы Сямашкі**, беларускага паэта.

**12 жніўня** - 10 гадоў таму ў Інтэрнэт-энцыклапедыі **"Вікіпедыя"** з'явіўся беларускамоўны раздзел (беларуская энцыклапедыя).

**14 жніўня** - 220 гадоў з дня нараджэння **Міхаіла Балінскага** (1794-22.12.1883 г.), гісторыка і публіцыста.

**18 жніўня** - 100 гадоў з дня нараджэння **Васіля Бурносава**, беларускага крытыка, літаратуразнаўца, перакладчыка.

**19 жніўня** - 150 гадоў з дня нараджэння чэшскага пісьменніка, вучонага-славіста, папулярызатара грамадскага і культурнага жыцця беларусаў **Адольфа Чэрнага**. Пасля наведвання Беларусі выдаў у 1895 г. кнігу "Беларускія песні з Дзісненскага павета Віленскай губерні. Перакладаў вершы Цёткі, Купалы, Коласа.

**20 жніўня** - 80 гадоў з дня нараджэння **Міхася Парахневіча**, беларускага паэта, празаіка, публіцыста.

**28 жніўня** - 140 гадоў з дня нараджэння **Аляксандра Уласава** (1874 - 1941), грамадскага дзеяча, выдаўца, публіцыста.



**28 жніўня** - 80 гадоў з дня нараджэння **Валянціны Караткевіч**, беларускага гісторыка, археолага, кандыдата гістарычных навук.

**28 жніўня** - 80 гадоў з дня нараджэння **Змітра Бяспалага**, беларускага празаіка.

**30 жніўня** - 210 гадоў з дня нараджэння **Аляксандра Ходзькі** (Барэйка 1804-1891 г.), паэта, фальклярыста, славяна-, усходазнаўца.

**ВЕРАСЕНЬ**

**1 верасня** - 75 гадоў з дня пачатку **Другой сусветнай вайны**. Германія напала на Польшчу.

**1 верасня** - 10 гадоў таму адкрыты **Баранавіцкі дзяржаўны ўніверсітэт**.

**2 верасня** - 125 гадоў з дня нараджэння **Канстанціна Шапялевіча**, беларускага мовазнаўца, педагога.

**4 верасня** - 90 гадоў з дня нараджэння **Майсея Тэйфа**, беларускага паэта, празаіка.

**6 верасня** - 110 гадоў з дня нараджэння **Паўлюка Шукайлы**, беларускага паэта, крытыка.

**7 верасня** - 300 гадоў з дня нараджэння **Міхала Карыцкага** (1714, м. Дзітрыкі) паэта-лацініста (зборнік "Песні" на лацінскай мове).

**8 верасня** - 500 гадоў **Аршанскай бітвы**.

**9 верасня** - 75 гадоў з дня нараджэння **Уладзіміра Шурпы**, беларускага паэта, педагога, журналіста.

**11 верасня** - 180 гадоў з дня нараджэння **Мікалая Авенарыуса**, археолага, краязнаўца.

**14 верасня** - 130 гадоў з дня нараджэння **Ф. Абрантовіча** (1884-1946), рэлігійнага і грамадскага дзеяча.

**17 верасня** - 240 гадоў з дня нараджэння **Тадэвуша Тышкевіча**, дзяржаўнага і ваеннага дзеяча Вялікага Княства Літоўскага.

**17 верасня** - 220 гадоў таму (1794 г.) адбыўся **Крупчыцкі бой** каля в. Крупчыцы (цяпер Жабінкаўскі раён) паўстанцаў на чале з К. Серакоўскім з расійскімі войскамі на чале з А. В. Суворавым.

**17 верасня** - 75 гадоў **уз'яднання** Заходняй Беларусі з Усходняй.

**23 верасня** - 90 гадоў з дня нараджэння **Артура Вольскага**, беларускага паэта, драматурга, перакладчыка.

**24 верасня** - 110 гадоў з дня нараджэння **Мар'яна Пецюкевіча,** беларускага грамадска-культурнага дзеяча, этнографа.

**25 верасня** - 100 гадоў з дня нараджэння **Яўгена Смаршчка**, беларускага культурнага дзеяча на эміграцыі, праваслаўнага святара, доктара педагогікі, прафесара.

**30 верасня** - 100 гадоў з дня нараджэння **Данілы Міцкевіча**.

**КАСТРЫЧНІК**

**1 кастрычніка** - 70 гадоў з дня заснавання **Берасцейскага тэатра** драмы і музыкі.

**5 кастрычніка** - 130 гадоў з дня нараджэння **Ф. Грынкевіча** (1884-1933), дзеяча культуры і рэлігіі.

**15 кастрычніка** - 100 гадоў з дня нараджэння **Лявона Случаніна**, беларускага паэта.

**21 кастрычніка** - 100 гадоў з дня нараджэння (1914) **Казіміра Свёнтка**, першага кардынала новай Беларусі.

**23 кастрычніка** - 90 гадоў з дня нараджэння (1924) **Івана Лепешава**, мовазнаўца.

**24 кастрычніка** - 80 гадоў з дня нараджэння **Карласа Шэрмана**, беларускага перакладчыка, паэта, крытыка.

**24 кастрычніка** - 75 гадоў з дня нараджэння **Мікалая Мішчанчука**, беларускага паэта і літаратуразнаўца.

**28 кастрычніка** - 130 гадоў з дня нараджэння **Ф.П. Ждановіча** (1884-1937), акцёра, рэжысёра, тэатральнага дзеяча.

**28 кастрычніка** - 50 гадоў таму назад створана Гарадзенскае абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў БССР.

**29 кастрычніка - 60 гадоў** з дня заснавання (1954) **Магілёўскага абласнога драматычнага тэатра**.

**Кастрычнік** - 25 гадоў таму ўтвораны Беларускі экзархат - **Беларуская праваслаўная царква.**

**ЛІСТАПАД**

**3 лістапада** - 100 гадоў з дня нараджэння **Паўла Леановіча**, беларускага празаіка, публіцыста.

**7 лістапада** - 70 гадоў таму (1944 г.) ў Менску адкрыты Беларускі дзяржаўны **музей Вялікай Айчыннай вайны.**

**8 лістапада** - 230 гадоў з дня нараджэння **Тодара Нарбута**, бацькі беларускіх гісторыкаў.



**10 лістапада** - 80 гадоў з дня нараджэння **Івана Курбекі**, паэта, літаратуразнаўца.

**11 лістапада** - 300 гадоў з дня нараджэння **Марціна Матушэвіча,** пісьменніка-мемуарыста, перакладчыка.

**11 лістапада** - 15 гадоў таму адкрыты **Старадарожскі мастацкі музей** (фонд А.Я. Белага).

**14 лістапада** - 75 гадоў таму 3-я (нечарговая) сесія Вярхоўнага Савета Беларускай ССР прыняла закон "Аб прыняцці **Заходняй Беларусі** ў склад Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі". У выніку насельніцтва Беларусі павялічылася да 11 млн. чалавек.

**16 лістапада** - 100 гадоў з дня нараджэння **Язэпа Семяжона**, беларускага перакладчыка, паэта, празаіка.

**19 лістапада** - 230 гадоў з дня нараджэння **Міхаіла Баброўскаага**, беларускага славіста, арыенталіста.

**22 лістапада** - 60 гадоў з дня нараджэння **Святланы Марозавай**, беларускага гісторыка, доктара гістарычных навук, прафесара.

**23 лістапада** - 190 гадоў з дня нараджэння **Баляслава Русецкага**, беларускага мастака.

**25 лістапада** - 300 гадоў з дня нараджэння **Тамаша Жаброўскага**, беларускага асветніка, архітэктара, астранома, матэматыка, прафесара.

**25 лістапада** - 80 гадоў з дня нараджэння **Міхаіла Падгайскага**, беларускага мовазнаўца.

**СНЕЖАНЬ**

**1 снежня** - 25 гадоў з дня правядзення ў Гародні гарадской устаноўчай канферэнцыі **Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны.**

**5 снежня** - 100 гадоў з дня нараджэння **Рыгора Няхая**, беларускага паэта.

**5 снежня** - 90 гадоў з дня нараджэння **Віктара Трасцянскага**, беларускага паэта.

**10 снежня** - 440 гадоў з дня нараджэння **Мікалая Лянчыцкага**, дзеяча беларускай культуры.

**10 снежня** - 75 гадоў з дня нараджэння **Анатоля Белага**, беларускага грамадска-культурнага дзеяча, кіраўніка клуба "Спадчына", стваральніка Старадарожскага мастацкага музея.

**12 снежня** - 200 гадоў з дня нараджэння **Адама Завацкага**, друкара, выдаўца.

**14 снежня** - 130 гадоў з дня нараджэння **Антонія Флароўскага,** рускага і чэшскага гісторыка-славіста, даследчыка жыцця і творчасці Ф. Скарыны.

**14 снежня** - 120 гадоў з дня нараджэння **Пятра Юргялевіча**, беларускага мовазнаўца, дацэнта.

**16 снежня** - 75 гадоў з дня нараджэння (1939 г.) **Зьніча** (сапр. А.А. Бембель), паэта, публіцыста, філосафа.

**16 снежня** - 25 гадоў таму назад утворана **Лідская гарадская арганізацыя ТБМ** імя Ф. Скарыны.

**21 снежня** - 80 гадоў з дня нараджэння **Івана Чыгрынава** (1934 - 5.1.1996), народнага пісьменніка Беларусі.



**24 снежня** - 230 гадоў з дня нараджэння **Зарыяна Даленгі-Хадакоўскага** (сапр. Адам Чарноцкі, 1784-1825), славяназнаўца, археолага, гісторыка, фальклярыста, дыялектолага, этнографа.

**24 снежня** - 110 гадоў з дня нараджэння **Алеся Дудара**, беларускага паэта.

**25 снежня** - 180 гадоў з дня нараджэння **Нікадзіма Сільвановіча**, мастака.

**25 снежня** - 110 гадоў з дня нараджэння **Міхася Чавускага**, беларускага празаіка.

**25 снежня** - 110 гадоў з дня нараджэння **Тацяны Сцяшковіч**, беларускага мовазнаўца.

**28 снежня** - 25 гадоў таму (1989 г.) створана **Беларускае краязнаўчае таварыства**.

**У 2014 ГОДЗЕ:**

**650 гадоў** з дня нараджэння **Рыгора Цамблака** (1364-1450), рэлігійнага дзеяча, пісьменніка, першага мітрапаліта ў ВКЛ.

**440 гадоў** з дня нараджэння **Іосіфа Вельяміна Руцкага**, беларускага царкоўнага дзеяча, пісьменніка, педагога, філосафа.

**390 гадоў** з дня заснавання (1624) **Наваградскага школьнага тэатра**. Існаваў да 1761 года.

**290 гадоў** з дня заснавання (1724) **Нясвіжскай капэлы Радзівілаў**. Існавала да 1809 г.

**280 гадоў** з дня нараджэння **Антона Грушэцкага** (1734-1798), беларускага жывапісца, графіка.

**270 гадоў** з дня заснавання (1744) **Слонімскага школьнага тэатра**. Існаваў да 1769 г.

**240 гадоў** з дня стварэння (1774) **Гарадзенскай музычна-тэатральнай школы** Тызенгаўза. Існавала да 1780 г.

**210 гадоў** з дня нараджэння **Юзафа Азямблоўскага** (каля 1804-1878), графіка.

**210 гадоў** з дня нараджэння **Мікіты Гарбачэўскага** (1804-1879) беларускага вучонага-архівіста, мовазнаўца.

**200 гадоў** з дня нараджэння **Іосіфа Гашкевіча**, першага консула Расейскай Імперыі ў Японіі.

**190 гадоў** з дня нараджэння **Юльяна Бакшанскага** (1824-1863), публіцыста, удзельніка паўстання 1863-1864 гг.

**170 гадоў** з дня нараджэння **Аляксандра Троіцкага** (1844-1887), беларускага этнографа, фальклярыста.

**160 гадоў** з дня нараджэння **Тарэзы Гардзялкоўскай,** беларускай перакладчыцы, выдаўца.

**150 гадоў** з дня нараджэння **Эмы Яленскай** (па мужу **Дмахоўскай**), беларускай фальклярысткі і этнографа.

**150 гадоў** з дня заснавання (1864) **Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі.** Існавала да 1920 г.

**120 гадоў** з дня нараджэння **Альфонса Петрашкевіча**, беларускага паэта, празаіка, перакладчыка.

**120 гадоў** з дня нараджэння **Ісака Мільчына**, беларускага графіка.

**100 гадоў** з дня нараджэння **Рыгора Жалязняка**, беларускага паэта, літаратуразнаўца.

**90 гадоў** з дня заснавання **Менскага музычнага вучылішча** імя М.І. Глінкі. .

**90 гадоў** з дня заснавання (1924) **Музея беларускага Палесся**.

**90 гадоў** з дня заснавання (1924) часопіса для жанчын. Да 1995 года - "Работніца і сялянка", цяпер - **"Алеся"**.

**80 гадоў** з дня пачатку выдання ў Заходняй Беларусі ілюстраванага часопіса для дзяцей **"Пралескі"**. Выходзіў да 1939 г.

**75 гадоў** з дня заснавання (1939) **Пінскага абласнога драматычнага тэатра**. Існаваў да 1954 г.

**70 гадоў** з дня заснавання Гарадзенскага дзяржаўнага **ўніверсітэта імя Янкі Купалы.**

**60 гадоў** з дня заснавання (1954) **Гомельскага абласнога драматычнага тэатра**.

**40 гадоў** з дня заснавання (1974) Беларускага дзяржаўнага харэаграфічнага ансамбля **"Харошкі"**.

**40 гадоў** з дня заснавання (1974) творчага аб'яднання "Студыя **"Сябры"** пад кіраўніцтвам А. Ярмоленкі.

**40 гадоў** з дня заснавання (1974) вакальна-інструментальнага ансамбля **"Верасы"** пад кіраўніцтвам В. Раінчыка.

**40 гадоў** ад пачатку правядзення (1974) Міжнароднага штогадовага фестывалю **"Беларуская музычная восень"**.

*Укладальнікі:*
***Сымон Барыс,***
***Аляксей Пяткевіч,***
***Станіслаў Суднік.***





# Віншуем сяброў ТБМ, якія нарадзіліся ў студзені

Адаська Віктар
Акулін Эдуард
Алесіна Ганна Міхайлаўна
Аліева Марыя Рыгораўна
Аляхновіч Мікалай Мікал.
Андрасовіч Наталля Валянц.
Антаноўскі Мікалай
Антанюк Ян
Анціпенка Лявон Міхайлавіч
Апейка Марыя Фёдараўна
Аскірка Валянцін Фёдаравіч
Ашкінадзэ Аляксандра Аляк.
Ашуева Вера Яўгенаўна
Багданкевіч Святлана Мікал.
Бакіноўскі Валянцін
Баркоўская Настасся
Баркун Любоў Сяргееўна
Барткевіч Таццяна Фёдараўна
Барысаў Лявон Аляксеевіч
Барысевіч Аляксандр Вітол.
Батуеў Павел
Батура Вольга Іванаўна
Бахір Алена
Белы Павел Аляксандравіч
Бечка Антон Вацлававіч
Благачынны Фларыян Мікал.
Болбас Данута Вацлаваўна
Булыга Міхаіл
Бурбоўская Алена Уладзім.
Бяліцкая Ганна Сцяпанаўна
Бяляева Кацярына Уладзім.
Варанцоў Міхаіл Ананіевіч
Варатынская Галіна Алякс.
Варонька Ніна Адэльфонс.
Васілевіч Алена Канстанцін.
Віданава Ірына Аляксеўна
Вінаградаў Віталь
Вісловіч Эдуард Андрэевіч
Водзіч Таццяна
Вярбоўская Надзея
Гайдук Марыя
Галавач Яўген
Гапеева Вальжына Міхайл.
Гаравы Марат
Гарадко Галіна Станіславаўна
Гарбачова Тамара Валер'еўна
Гардзіенка Ала Андрэеўна
Гасціловіч Уладзімір Всільев.
Гацак Максім Віктаравіч
Гедроіць Аляксандр Генадз.
Герасёва Таццяна Андрэеўна
Герман Таццяна
Гільвей Валянціна
Грыцкевіч Анатоль
Грышкевіч Лявон Іосіфавіч
Грэбень Раіса
Гуркова Каміла
Дашкевіч Віктар
Дварэцкі Аляксей Вадзімавіч
Дварэцкі Андрэй Вадзімавіч
Дзям'янаў Аляксандр Уладз.
Дзям'яненка Юлія
Доўнар Павел Віктаравіч
Дранжкевіч Марыя
Дробаў Іван Міхайлавіч
Дубовік Ганна Уладзіміраўна
Дуброўская Наталля
Дунецкі Анатоль
Дычок Рэгіна Янаўна
Езавіт Т. В.
Ефімовіч Аляксандр Вячас.
Жарнасек Ірэна Францаўна
Жылінская Святлана
Жынь Канстанцін Уладзімір.
Заіка Зоя Міхайлаўна
Закрэўская Ніна
Зарубава Ганна Уладзімір.
Захарава Кацярына Алякс.
Збадоўскі Эдуард Іосіфавіч
Здановіч Ніна Іванаўна
Землякова Ала
Зімніцкая Ганна Ігараўна
Зімніцкі Леанід
Зубар Марына Уладзіміраўна
Іванковіч Уладзімір Уладзім.
Івановіч Кацярына Анатол.
Ігнатчык Алег Уладзіміравіч
Іпатава Вольга Міхайлаўна
Кабышаў Зміцер
Кавальчук Таццяна
Казак Валянціна
Казак Міхась Мікалаевіч
Казак Сяргей Іванавіч
Казлоўскі Алег Феліксавіч
Калеснікавіч Максім
Калінка Святлана Міхайлаўна
Каліноўская Марыя
Калядка Іна
Канопкіна Таццяна Станісл.
Канус Марыя Іванаўна
Капарыха Мікола
Капуста Алена Міхайлаўна
Карабан Станіслаў Вацлавав.
Каралёнак Мікалай Мікал.
Каратчэня Іван Адамавіч
Карней Ігар Пятровіч
Карповіч Уладзімір Леанід.
Картузава Яўгенія Юр'еўна
Карэнька Людміла Мікал.
Каспяровіч Ілля Алегавіч
Касьян Марыя Віктараўна
Кашчэева Людміла
Каяла Уладзімір Іванавіч
Кізееў Ігар
Кісель Таццяна Аляксандр.
Клімашонак Віталь Алегавіч
Кліменценка Святлана Ульян.
Клімуць Яраслаў Іванавіч
Клямята Уладзімір Антонавіч
Кніга Галіна
Кожан Кліменцій Арсенавіч
Козел Алена Аляксандраўна
Коласава Алена Аляксандр.
Корнеў Павел Іванавіч
Котаў Павел Аляксандравіч
Красоўская Таццяна
Красоўскі Леанід Мікалаевіч
Красоцкі Ян
Краўчук Ала
Крол Вера Сяргееўна
Крывальцэвіч Мікола
Крывой Яраслаў Віктаравіч
Крыж Сяргей Аляксандравіч
Кузьмянкоў Генадзь Адамав.
Кулік Анатоль
Курчанава Ларыса Вітал.
Куцэпаленка Яўген
Лабанава Наталля Андрэеўна
Лабоха Канстанцін Валянцін.
Лазарэнкаў Валянцін
Лазюк Аляксандр
Лакішык Аляксей Рыгоравіч
Ларычаў Алег Васільевіч
Лашук Алег Пятровіч
Ліпскі Канстанцін Аляксеевіч
Лісоўскі Дзмітры
Ліцкевіч Наталля
Ліцьвінчук Анатоль
Лобан Павел Міхайлавіч
Лобец Алесь Паўлавіч
Лукашэнка Антон Уладзімір.
Луцэвіч Аляксандр Сярг.
Лысенак Р.В.
Лысы Аляксандр Уладзімір.
Люліна Алена Канстанцінаўна
Магалінскі Ігар Уладзімір.
Магучава Таццяна Васіл.
Магучая Галіна
Малаковіч Надзея
Маліноўскі Лявон
Малышава Людміла Яўген.
Малышка Іпаліт Міхайлавіч
Малюк Марына
Маляўка Марыя
Маркоўская Кацярына Мік.
Мароз Аксана Пятроўна
Марцынкевіч Марыя
Масакоўскі Уладзімір Ген.
Мацюшава Яна Аляксандр.
Мельнікаў Юры Леанідавіч
Мільнова Таццяна Мікал.
Мінько Марына
Міхалёва Варвара
Міхалькевіч Людміла Мікал.
Міханчык Нэлі
Міцкевіч Людміла
Мішкель Станіслаў
Мішкоў Яўген
Музычэнка Андрэй Мікал.
Мускі Барыс Георгіевіч
Мялешка Віктар Аляксандр.
Навагродскі Мечыслаў Аляк.
Навахрост Кацярына
Навуменка Валянціна Мікал.
Нагорны Юры Аляксандр.
Нікалаеў Аляксандр Яўген.
Нікіцін Аляксандр Аркадз.
Новік Міхась Фаміч
Норка Алеся
Падабед Аляксандр
Палубінская З. Г.
Панізовіч Марат Яфімавіч
Панкратава Наталля Сярг.
Патаранскі Сяргей Сяргеевіч
Паўлючук Антон
Пісарэнка Аляксандр Васіл.
Пляхневіч Тамара
Пракаповіч Наталля Фёдар.
Пракурат Яўген Андрэевіч
Пратасаў Мікалай
Пратасеня Юры Аляксандр.
Прымака Васіль Дзмітрыевіч
Прыхач Віталь Іванавіч
Прышчыц Валянціна Сцяпан
Пярвушына Галіна Сярг.
Пясецкі Генадзь Леанідавіч
Пячкоўскі Франц Уладзімір.
Рабянок Дзяніс
Радзюк Міхаіл Міхайлавіч
Рамановіч Вераніка
Роўкач Андрэй
Рудак Таццяна
Рудзіч Алена
Руцкая Алена Вітальеўна
Рымша Сяргей
Савіцкая Таццяна
Савуліч Мікалай
Самуйлік Яўген Рыгоравіч
Саскović Алена
Саханчук Сцяпан
Свентахоўская Валянціна М.
Свістунова Алеся Аляксанд.
Семянчук Альбіна
Сівіцкі Уладзімір Уладзімір.
Сімбіраў Ігар
Сіповіч Святаслаў Іосіфавіч
Сітніца Рыгор
Скамейка Сяргей Кузьміч
Скрыпко М.А.
Снітко Тамара
Стагначоў Уладзімір
Судак Вікторыя
Суша Тамара Мікалаеўна
Сушчэня Анатоль
Сцепанчук Надзея
Сытая Таццяна
Сяргейчык Аляксей Мікал.
Тамашоў Мікалай
Тамашэвіч Аляксандр Уладз.
Тамашэвіч Тамаш Іосіфавіч
Тарасевіч Тамара Сафрон.
Трухін Уладзімір Фёдаравіч
Украінка Сяргей Сяргеевіч
Федаровіч Святлана Міх.
Федзюшка Надзея
Фёдарава Вольга Дзмітр.
Фядотаў Феакціст Фёдаравіч
Хадановіч Маргарыта Міх.
Хадоркін Мікола Фёдаравіч
Хамайда Барыс
Хамец Міхась Дзмітрыевіч
Хмараў Сяргей Рыгоравіч
Царкова Ніна Канстанцінаўна
Цітоў Ігар Віктаравіч
Ціхачова Ганна
Цыбульская Людміла Віктар.
Цяцёркін Мікалай Яўгенавіч
Чайка Сяргей
Чаркасава Любоў Восіпаўна
Чарных Наталля
Чарнякова Вольга
Чачотка Анатоль Ілліч
Чылек Міхаіл Паўлавіч
Чырэка Алесь
Шаклач Таццяна
Шафарэнка Мікалай Мікал.
Швец Алена
Шыбека Аляксандр Сярг.
Шыдлоўская Ніна Анатол.
Шыман Дзмітры Валянцін.
Шыманец Алена
Шынкевіч Уладзімір
Шышко Вадзім Аляксандр.
Юранкова Марыя Віктараўна
Якалцэвіч Марыя Антонаўна
Якушава Аліна Мікалаеўна
Янушкевіч Леанід
Яцкевіч Уладзімір Антонавіч

# Барысу Мускаму - 75



9 студзеня 2014 года адсвяткуе 75-годдзе сябар Фрунзенскай арганізацыі ТБМ імя Ф. Скарыны Барыс Георгіевіч Мускі. Ён нарадзіўся ў Менску ў сям'і Георгія Аляксандравіча Мускага (1910-1989) і Ксеніі Васільеўны Станкевіч (1916-2010). Бацька хлопчыка нарадзіўся ў Варшаве. Працаваў інжынерам-будаўніком. Барыс быў адзіным дзіцём у сям'і. Падчас Вялікай Айчыннай вайны сям'я жыла ў Менску. Пасля вайны Барыс трапіў у прывілеяваную школу № 42, вучыўся ў школе на "4". Займаўся ў Палацы піянераў у гуртку мастацкага чытання. У нейкім класе нават атрымаў грамату! Скончыў 7 класаў. Паступіў у энергатэхнікум у 1953 годзе. Вучыўся па спецыяльнасці "Цеплавая частка электрычных станцый". Тэхнікум скончыў з сярэднім балам "4,18". Застаўся працаваць у Менску ў арганізацыі "Беларусэнергія".

Да прызыву ў войска працаваў ў г. Жодзіна машыністам турбіны (больш за год). У 1958-1961 гг. служыў у ракетных войсках стратэгічнага прызначэння. Служыў на Поўначы. У 1961 годзе паступіў у Політэхнічны інстытут на спецыяльнасць "Цеплавая частка электрычных станцый". У Інстытуце скончыў 1 курс і пайшоў вучыцца на вячэрняе аддзяленне па той жа спецыяльнасці. Пачаў праектаваць для электрастанцый кантрольна-вымяральныя прыборы і аўтаматыку. Ажаніўся з дзяўчынай Алай у 1964 годзе, а ў 1966 годзе нарадзілася дачка Алена, якая зараз жыве ў г. Менску. У 1969 годзе скончыў ВНУ.

З 1963 па 2011 гады працаваў кіраўніком групы ў БелНДІэнергапраме. З'яўляецца "Выдатнікам беларускай энергасістэмы".

У 1971 годзе ажаніўся з Марыяй Чукіла. У 1973 годзе нарадзіўся сын Кірыл, які зараз працуе юрыстам. У 1982 годзе нарадзіўся малодшы сын Алесь. Барыс Мускі праектаваў электрастанцыі ў г. Лідзе, Бабруйску, Баранавічах, Менску (ТЭЦ-4 і ТЭЦ-5). Удзельнічаў у народнай дружыне, за што атрымаў грамату Вярхоўнага Савета БССР у 1984 годзе якую яму ўручаў намеснік старшыні Вярхоўнага Савета - Лабанок (зараз ёсць вуліца ў г. Менску).

Барыс Мускі праектаваў электрастанцыі ў Літве і Расіі (Энгельсе і Куйбышаве), а таксама ў Македоніі (з 1979 па 1981гг.) у 1960 годзе трапіў у шэрагі КПСС, у якой быў да 1991 года.

У 1990 г. у яго на працы была створана суполка ТБМ з 30 чалавек. Удзельнік 1 з'езду ТБМ. Увесь час выпісвае штотыднёвік "Наша слова". З пачатку 1990 года наведваў "Беларускую хатку". Наведваў таксама суполку "Спаемства" (кіраўнік Язерскі Сяргей Андрэевіч). З 1990-х гг. прыхільнік клуба "Спадчына", якім кіраваў Анатоль Белы. Сябар Рэвізійнай камісіі ТБМ (абраны на X з'ездзе ТБМ). Спадар Барыс мае ўнука Кастуся (1999 г.н.). З 1970 года спадар Мускі займаецца загартоўваннем і зімовым плаваннем. Барыс Георгіевіч па некалькі разоў на тыдзень наведвае ТБМ і займаецца грамадскай дзейнасцю.

Ахрышчаны падчас вайны ў праваслаўнай царкве, Барыс Георгіевіч наведвае грэка-каталіцкую царкву ў Менску (ў Снежным завулку). Яшчэ трэба адзначыць, што спадар Барыс - сябар клуба "Прамова". Ветэран ТБМ збірае аўтографы вядомых дзеячаў навукі, культуры і літаратуры. Мае цудоўную бібліятэку. Спадар Барыс марыць пра росквіт Беларусі.

Шматлікія сябры ТБМ і яго кіраўніцтва жадаюць Барысу Мускаму моцнага - моцнага здароўя, шчасця, радасці, здзяйснення мар і задум, усяго самага найлепшага яго родным і блізкім!

***Аляксей Шалахоўскі,***
*гісторык,*
*жураналіст, краязнавец.*

**На здымку:** Барыс Мускі з жонкай Марыяй і яе знаёмай.

# Парадак дня Рэспубліканскай Рады ТБМ 26.01.2014 г.

1. Справаздача Старшыні ТБМ аб працы арганізацыі за 2013 г.
2. Зацвярджэнне плана працы ТБМ на 2014 год .
3. Прыняццё Заявы адносна сітуацыі з Літаратурным музеем імя Максіма Багдановіча.
4. Падрыхтоўка да юбілею ТБМ.
5. Падрыхтоўка да чарговага з'езду ТБМ.
6. Прыняцце Звароту да кандыдатаў у дэпутаты мясцовых саветаў і выбарнікаў.
7. Рознае.

# Увага

У студзені 2014 г. у сядзібе ТБМ у межах кампаніі "Будзьма" працягвае працаваць гістарычная школа "Гісторыя ў падзеях і малюнках" пад кіраўніцтвам кандыдата гістарычных навук **Алега Трусава.**

У студзені заняткі адбудуцца: 13 студзеня (панядзелак), 20 студзеня (панядзелак), 27 студзеня (панядзелак), 30 студзеня (чацвер).

Пачатак а 18-й на вул. Румянцава, 13. Уваход вольны.

*Новае выданне*

# Кніга пра лёсы беларусаў

Напярэдадні праваслаўных Калядаў у менскім выдавецтве "Кнігазбор" выйшла з друку новая кніга слонімскага літарататара, гісторыка і краязнаўца Сяргея Чыгрына пад загалоўкам **"Іншых шляхоў не было".**

Кніга прысвечана гісторыі Беларусі, яе выдатным асобам, якія ў XX стагоддзі жылі, працавалі і змагаліся за незалежнасць сваёй Бацькаўшчыны.

Выданне распачынаецца артыкуламі пра лёс мовазнаўца Янкі Бялькевіча, пра кіраўніка падпольнай "Чайкі" Васіля Супруна, пра сябра Саюза вызвалення Беларусі Самсона Пярловіча, пра дзеячаў ТБШ у Заходняй Беларусі ў 1920-1930-х гадах Алену Лябецкую, Паўла Крынчыка, Серафіма Татарына, Веру Белакоз і пра іншых малавядомых і вядомых асоб Бацькаўшчыны.

Ёсць у кнізе і раздзелы, прысвечаныя беларусам Беласточчыны, старонкі слонімскай гісторыі, артыкулы пра новыя беларускія кнігі, а таксама гутаркі з вядомымі людзьмі Беларусі - Вячаславам Рагойшам, Аляксеем Пяткевічам, Лідзіяй Арабей, Аленай Васілевіч, Уладзімірам Васько, Яўгенам Петрашэвічам і іншымі.

***Кацярына ЯНУШЭВІЧ***

# Чытанка для маленькіх




Каляды, Новы год, ізноў Каляды - святы ідуць адно за адным. А днямі адбылася яшчэ адна падзея, якую таксама можна лічыць сапраўдным святам.

Новай цудоўнай кнігай "Чытанка для маленькіх", укладзенай Вінцуком Вячоркам і Пятром Садоўскім, папоўнілася серыя "Каляровы ровар", што выходзіць у Бібліятэцы Саюза беларускіх пісьменнікаў "Кнігарня пісьменніка". У кніжку ўвайшлі творы з першай часткі "Чытанкі для дзіцячага садка" тых жа ўкладальнікаў, якая выходзіла ў 2008 годзе і многім палюбілася. Новае выданне выйшла ў выдавецтве "Кнігазбор" на замову МГА "ЗБС "Бацькаўшчына".

"Чытанка для маленькіх" - гэта выдатны падарунак для тых, у каго маленькія дзеці. Кніга змяшчае вершы і казкі, калыханкі і гульнёвыя прыпеўкі для дзетак да трох гадоў. Творы ў чытанцы сабраныя як народныя, так і аўтарскія.

Дзеткі могуць смела гартаць гэтую кніжку, бо яна ў цвёрдай вокладцы, а старонкі надрукаваныя на шчыльнай паперы. А гартаць яе яны будуць з сапраўдным задавальненнем, будзьце пэўныя! Выданне аздобленае прыгожымі і яркімі малюнкамі мастачкі Святланы Каньковай-Дударэнка.

У хуткім часе "Чытанку для маленькіх" можна будзе набыць у кнігарнях Менска і іншых гарадоў Беларусі.

*Інфармацыйны цэнтр МГА "ЗБС "Бацькаўшчына".*

# З любасцю да лагойскай зямлі

Зямля бацькоў у кожнага свая. Раўнінная або ўзгорыстая, рачная або азёрная, балоцістая або пясчаная… Узгадаваўшыся і вырасшы, мала хто застаецца на ёй: абжываемся, пускаем карэнне ў іншых мясцінах. І заўсёды шчыміць сэрца, калі набліжаешся да бацькоўскіх веснічак, да родных магілак…

"Зямля бацькоў, Лагойшчына мая…" Радкі з верша Ніла Гілевіча сталі назвай і апірышчам вечарыны, якая адбылася ў ТБМ. Выступоўцы падабраліся так, што кожны нейкім чынам звязаны з лагойскай зямлёй. Цымбаліст Алесь Лявончык - ураджэнец. Мікола Ляшчун парадніўся з ёю 30 год таму. Яго былая вучаніца Алёна Масцерава працуе ў раённай газеце. Паэтка Аліна Легастаева жыла ў Лагойску ў 90-ых гадах. Кампазітар і музыка Іван Раманчук кароткі час працаваў у Плешчаніцкай СШ №1. Аўтар фотапрэзентацыі Кацярына Жардзецкая атрымала ў спадчыну сядзібу свайго дзеда, настаўніка Івана Нікіфаравіча, і ўлюбілася ў янушкавіцкія краявіды. Вядоўца імпрэзы Галіна Каржанеўская яшчэ школьніцай пераехала ў тую ж вёску, напісала там першыя вершы, а пасля настаўнічала ў Плешчаніцах. Усе дзяліліся сваімі ўражаннямі, дарагімі ўспамінамі, цікавымі выпадкамі. Прагучалі вершы і песні народнага паэта Беларусі Ніла Гілевіча ў выкананні пяцікурсніцы БДУ Дар'і Ліберавай. А галоўным героем вечарыны стаў паэт і перакладчык Мікола Ляшчун, які прачытаў прысутным свае новыя творы. З гэтым перадкалядным вечарам добра перагукваліся радкі з яго паэтычнай кнігі "Белая завея":

*Я веру ў геній дабрыні,*
*Жыву, сябрую на даверы.*
*Я веру ў зорку чысціні…*
*Бо як жа можна*
*жыць без веры?*

***Галіна Зінкевіч.***











**На фота** В. Маеўскага: 1. Вершы чытае Аліна Легастаева. 2. Выступае Іван Раманчук. 3. Здымак на памяць. 4.Мікола Ляшчун і Галіна Каржанеўская. 5. Ураджэнец Лагойскай зямлі Алесь Лявончык.

# Віншаванні ТБМ



**Віншаванне ад амбасады ЗША:**

Шчаслівых святаў і ўсяго найлепшага ў 2014 годзе!

*Ітан А. Голдрыч,*
*часовы павераны ў справах ЗША.*
*Амбасада ЗША.*

**Віншаванне ад амбасады Германіі:**

Пасольства Федэратыўнай Рэспублікі Германія ў Мінску жадае Вам вясёлых Калядаў і шчаслівага Новага 2014 года!

**Віншаванне ад “Офіса еўрапейскай экспертызы і камунікацый”**

Шаноўныя сябры!

Мы шчыра дзякуем за супрацоўніцтва і падтрымку сёлета!

Пазітыву, прыгажосці і натхнення ў штодзённай працы ў 2014 годзе!

*Асветніцкая ўстанова*
*“Офіс еўрапейскай экспертызы і камунікацый”.*

**Віншаванне ад Беларускай асацыяцыі журналістаў:**

Шаноўныя калегі, сябры!

ГА “Беларуская асацыяцыя журналістаў” шчыра віншуе вас з Калядамі і Новым годам!

Зычым вам радасных святаў і ўдалага 2014 года!

Спадзяёмся на далейшае ўмацаванне нашых сяброўскіх і дзелавых кантактаў.

*Па-ранейшаму ваш БАЖ.*

**Віншаванне ад Асацыяцыі рэгіянальнай прэсы:**

Паважаныя сябры!

Вясёлых Вам Калядаў і шчаслівага Новага Года!

Плённай працы і шматлікіх дасягненняў.

*З павагай, Ганна Ягорава.*

**Віншаванне ад ГА БНФ “Адраджэньне”:**

Вясёлых Калядаў і шчаслівага Новага Года!

*З павагай, Ігар Лялькоў.*

**Віншаванне ад сям’і Мальдзісаў:**

Шлём Вам сардэчныя віншаванне з Нараджэннем Хрыстовым і Новым 2014 годам!

Няхай Год Каня будзе жвавым у бегу, не скідвае нікога з Аптымізацыйга Воза, зіма чакае нас нармальная, вясна – дружная, лета – без ураганаў і паводак, а восень – з багатым ураджаем!

*З павагай і*
*найлепшымі пажаданнямі*
*Адам, Яраслаў і*
*Аляксей Мальдзісы.*




**Віншаванне ад Nastaunik.info:**

Шаноўныя сябры, калегі і ўсе нашыя чытачы!

Мы віншуем вас з Калядамі і Новым годам! Дзякуй за тое, што вы заставаліся з намі, дасылалі свае матэрыялы, чыталі, раілі, як палепшыць нашую працу.

***Заўсёды ваш, Nastaunik.info.***

**Віншаванне ад Тамары Габрусь:**

Віншую з Новым 2014 годам і Калядамі!

У навагоднім карагодзе
Змею панаваць ужо годзе!
Вунь там Конік б'е капытам -
Ён рыхтуе нам іспыты.
Будзьце моцныя, як коні,
Працавітыя, як коні -
Шчасце будзе ў далонях!"





Алесь Бяляцкі

# СЦЯГА ПАЭТА

## Штрыхі да творчага партрэта паэта Эдуарда Акуліна

*(Працяг. Пачатак у папярэднім нумары.)*

Беларусы здолелі захавацца, заціснутыя паміж усходам і захадам, паміж двума большымі колькасна народамі. Не без стратаў для сябе, але захаваліся. Праблема нацыянальнага выжывання, існавання і жыцця вострa існуе для беларусаў усе паўтары тысячы гадоў, з таго часу, як толькі рассяліліся славянскія плямёны, зрушаныя ў сярэдзіне першага тысячагоддзя нашай эры са сваёй прарадзімы, "з сініга Дунаю", з правабярэжнай Прыпяці і сярэдняга Дняпра. Гістарычная праблема выжывання "паміж двух гурганоў" беларускай нацыянальнай свядомасці, інтэлекту, розуму, асэнсоўваецца Эдуардам Акуліным у наступных радках:

*У нівы розныя ляцелі…*
*Там прарасталі для другіх,*
*Карміні, радавалі іх.*
*А Край радзімы стаў пустэчай,*
*А Край у роспачы канаў,*
*Ды не прыняў акцэнту Рэчы*
*І окаць голасна не стаў.*
(5/8-14)

І ўсё ж прыйшоў час, прачнулася нацыянальная свядомасць і:
*Збудзілася і буйна ўскаласіла*
*Спачатку думка, справа - потым.*
(7/1-2)

Паэт вызначае гістарычныя вехі на шляху беларускага адраджэння: паўстанне Кастуся Каліноўскага, жыццё для Беларусі Янкі Купалы і творчы подзвіг Максіма Багдановіча. Куды ж вядуць беларусаў правадыры нацыянальнага духу? "Аб Радзіме вольнай мары" - такой уяўляецца паэту галоўная мэта беларускага адраджэння. Спадзяванне на змены Эдуард Акулін ускладае на беларускі народ, вызваленне народнага духу - гэта справа самога народа, аж пакуль:
*Зварушаны нарэшце дух народны…*
*Ён, як вясновы крыгаход,*
*Спярша павольны і лагодны,*
*Ды нарастае пакрысе,*
*Аж покуль гром невераґодны*
*Мастоў стальных не затрасе:*
*Нібы запалкі трэснуць палі,*
*І панясе ён гнеў свой далей.*
(10/1 і 8-10)

Шлях да свабоды, незалежнасці бачыцца паэту доўгім і няпростым. На гэтым шляху багата перашкодаў і цяжкасцяў, паразаў і трагедыяў. Беларусы знаходзяцца на мяжы страты сваёй нацыянальнай самабытнасці, ясна ўсведамляе паэт. Любая буйная памылка на шляху адраджэння можа стаць непапраўнай, бо:
*ёсць вераґоднасць памыліцца…*
*І перасохнуць, назаўжды прычым,*
*і словы мовы, і крынічныя ключы.*
(12/9-10)

Але паэт перакананы ў тым, што трэба ісці па шляху адраджэння ўласнай нацыянальнай непаўторнасці, што беларусам трэба сыходзіць з дарогі савецкай асіміляцыі і вяртацца на свае ўласныя забытыя пуцявіны. У гэтым - выратаванне беларускага народа, упэўнены Эдуард Акулін:
*Каторая магутна, гучна мкне -*
*Не самая галоўная дарога.*
*Яна прыводзіць часта да знямогі*
*Ці да святла, але ў чужым акне.*
*А іншы шлях забыты, непыхлівы,*
*А пойдзеш - і згадаеш, што знаёмы*
*І гэтыя вакoнныя праёмы,*
*І позірк недаверліва-шчаслівы.*
(13/1-8)

Шлях вяртання да Радзімы - гэта праграма нацыянальнага выжывання для беларусаў маркуе паэт. Тагачасны Савецкі Саюз не ўспрымаецца паэтам як натуральнае дзяржаўнае ўтварэнне. Гэта нешта адназначна чужое, нероднае, ад чаго трэба адштурхнуцца, адкараскацца, каб пайсці па "шляху вяртання да Радзімы", да сапраўднай Радзімы, да "зямлі бацькоў". Відавочныя паралелі вяртання беларусаў з "турмы народаў" - СССР да Беларусі з старабіблейскім сюжэтам уцёкаў ізраільцянаў з егіпецкага палону ў святую зямлю, у Ізраіль. Старазапаветны шлях быў для ізраільцянаў цяжкі і няпросты, і не ўсе прайшлі яго пасля сарака гадоў блуканняў па пустыні. Гэткім жа няпростым бачыцца паэту і шлях беларусаў да сваёй Радзімы:
*Той шлях вяртання да Радзімы*
*Дай сілы, Бог, усім дайсці!*
(14/8-14)

Акрапаэма "Шлях да Радзімы" была напісаная ў 1987-м годзе. Яшчэ непадзельна панавала савецкая ўлада, у савецкіх турмах сядзелі іншадумцы, а ў Менску, у Гомелі, у іншых беларускіх гарадах бурна развіваўся моладзевы нацыянальны рух. Ужо ва ўсю гулі і звінелі "Тутэйшыя", "Талака". Беларуская свядомая моладзь, як тыя ручайкі, у розных гарадах краіны прабівала рэчышча ў скаванай ільдом грамадскай думцы, па якой неўзабаве пакоціцца шырокая хваля новага беларускага адраджэння.

У 1986 годзе Эдуард Акулін завочна паступіў у аспірантуру Інстытута літаратуры Акадэміі навук, прыязджаў у Менск і тыднямі жыў у сталіцы, вучыўся, сустракаўся і сумовіўся і з маладымі гісторыкамі, і з літаратарамі, з сябрамі па Гомельскім універсітэце, якія на той час ужо перабіраліся ў Менск. Паэт умацоўваўся ў сваіх светапоглядных ідэях, у веры ў новае беларускае адраджэнне, затым вяртаўся ў вёску Дуброва, у Рэчыцкім раёне, дзе настаўнічаў і пісаў пра самае дарагое, набалелае і патаемнае, пра тое, пра што нават думаць было галавакружна і вусцішна - пра шлях да незалежнай і вольнай Беларусі.

Эдуард Акулін - адзін з першых беларускіх паэтаў, хто ў сваіх думках і ў творчасці, у сваім светапоглядзе адолеў гэты шлях.

У вёску Дуброва, дзе настаўнічаў Эдуард Акулін, з Рэчыцы прыязджаў начальнік канторы "глыбокага бурэння", спрабаваў "пасябраваць" з маладым паэтам, прапаноўваў дапамогу ў тым, каб у Менску яго заўважылі, каб надрукавалі першую кніжку, далі жыллё, наўзамен жа прапаноўваў "творчае" супрацоўніцтва. Ды марна. Эдуард Акулін у сваіх кроках, думках і ў вершах ужо жыў у іншай краіне, не ў СССР, а ў незалежнай Беларусі.

### III.

Вялікае значэнне і месца ў паэзіі Эдуарда Акуліна займае любоўная лірыка. Вершы пра каханне ў першых зборніках паэта чыстыя і цнатлівыя. Паэт грунтуецца ў іх на сваіх пачуццях, уласным досведзе і асабістых асацыяцыях, выкліканых каханнем. Улюблёнасць - натуральны стан маладосці. Вершы пра каханне ў паэта зазвычай лаканічныя, у іх мала страфаў і небагата слоў. Ашчаднасць у выказваннях кампенсуецца ўзмоцненай экспрэсіўнасцю і жаданнем паэта высвецiць глыбінную сутнасць кахання, якое ён спазнае, праз цэлую гаму разнастайных перажытых ім пачуццяў, гэта і юнацкая разгубленасць, сціпласць і нерашучасць:
*я разгубленай рукою*
*з кос тваіх выблытваў вецер.*
(Шкельцы ў вітраж "Каханне", с. 42/3-4),
якая пераходзіць у сляпую роспач ад расстання з каханай:
*Знікала ты адна - у ноч,*
*і я прамоўчаў наўздагон.*
*А дождж ішоў,*
*і горад плакаў*
*усімі проймамі вакон.*
(Шкельцы… с. 42/9-13)

Роспач змяняецца на незвычаюную пяшчоту, якая, здаецца, запаўняе сабой ўсю сутнасць закаханага творцы:
*На зямлі двое нас шчаслівых,*
*бо ніводнай душы наўкола…*
*Нас кранула пяшчота лiўня*
*таямнічым крылом анёла.*
(Пяшчота лiўня, с. 79/1-4)

Пяшчота ж пераліваецца ў настальгічны і ціхі сум:
*Каб я аднойчы не спаткаў Вас,*
*ці так бы прагнуў зараз жыць…*
*Ці так бы іншую кахаў я?..*
(Тэрцыны, с. 86/1-3)
і лірычны жаль:
*Тухнуць доўга адгалоскам*
*тваіх крокаў у вушах.*
*Аплыве, бы свечка воскам,*
*успамінамі душа.*
(Тухнуць доўга адгалоскам, с. 88/1-4)

Пачуцці, выкліканыя каханнем, як відаць, не надаюць паэту весялосці і жыццёвага аптымізму. Хуткая змена настрою ад бязмежнага шчасця да стану роспачы, шчымлівага суму - добра вядомая прыкмета рамантычных і тонкіх натураў. Паэт на ўласным досведзе пераконваецца, што каханне прыносіць не толькі станоўчыя эмоцыі, але і душэўны боль. Паэта прыцягвае загадка мімалётнасці, імклівасці і незваротнасці кахання. Недаўгавечнасць кахання заварожвае яго і выклікае жаданне ў сваіх вершах неяк спыніць гэты момант шчасця, занатаваць яго, намаляваць на паперы словам і такім чынам як найдаўжэй захаваць у памяці і жыцці. Таму ён зноў і зноў прыслухоўваецца да стану сваёй душы і шукае неабходныя словы, выразы, вобразы для выяўлення гэтага найскладанейшага чалавечага пачуцця.

Такі паэтычны самааналіз дае свой плён. Эдуарду Акуліну ўдаецца праз лаканічныя, сціслыя радкі перадаваць кранальнасць і крохкасць юнацкага кахання, а таксама настальгічны настрой жалю ад незваротнасці і праміналасці людскога жыцця.

Прыгажосць жанчыны для Эдуарда Акуліна з'яўляецца ўсяго толькі часткай вялікай, усеагульнай прыгажосці, якая разлітая ў Сусвеце, і якой пакланяецца паэт. Паэзія для Эдуарда Акуліна - і крыніца прыгажосці, і спосаб адлюстравання красы, заўважанай ім у акаляючым свеце. Ён бачыць яе ў музыцы:
*Ўрачысты страх перад прыгожым.*
*Калі Ты ёсць? Памілуй, Божа!*
*Дай сілы слухаць, дыхаць, жыць…*
(Арган, 122/1-3)

У жывых істотах акаляючай прыроды паэт таксама шукае дасканаласць харaства:
*Акрэсленасць цёмных ліній.*
*Завершанасць белых лілій.*
*Срэбнае зерне поўні*
*лебедзям не здзяўбаць…*
*У пяшчоце абвіўшы шыі, яны спяць.*
(Начное возера, с. 41)

Краса ў жаночых рухах жыве самастойна, сама па сабе:
*Самыя прыгожыя на свеце*
*рухі ўсе прыручаны табою.*
(Знаёмай танцоўшчыцы, с. 44/1-2)
Яна разлітая і ў прыродзе:
*Прырода, як натуршчыца,*
*прыгожая і голая…*
(Дзяцінства, с. 62/5-6)

Паэт будзе і далей, не стамляючыся, усе наступныя гады шукаць Харaства ва ўсім. Уменне бачыць і адчуваць прыгажосць, захапленне ёю - праява цікавасці да жыцця. Творцы, як ніхто, чуйныя да красы. Яна, як універсальная субстанцыя, аб'ядноўвае мастацтва музыкі, слова і жывапісу. Яна зніто́ўвае творцаў у часе і прасторы. Яна ўзбагачае і развівае ў чалавеку духоўны пачатак, душу. Адчуванне прыгажосці ўздымае чалавека над усім жывым, вылучае яго з мёртвага хаоса Сусвету. Прыгажосць непазбежна набліжае чалавека да разумення велічы Творцы.

Эдуард Акулін пачынае задумвацца над сутнасцю чалавечага быцця. Ён задае сабе пытанні, якія, раней ці пазней, задае сабе кожны думаючы чалавек. Адказ на іх шмат у чым вызначае далейшыя паводзіны чалавека ў жыцці:
*Празрыстая далеч.*
*Сутоўлівы шлях.*
*Адвечныя мары.*
*Прытоены страх.*

*Куды мы? Куды мы?*
*Куды мы пасля?*
*За марай, за дымам*
*ці будзе працяг?*
(Празрыстая далеч, с. 82/1-8)

Так акрэсліваецца пачатак доўгага духоўнага шляху, па якім пойдзе далей паэт.

Пры чытанні вершаў з першых зборнікаў Эдуарда Акуліна адразу заўважаецца празрыстая акварэльнасць паэтычнага стылю паэта. Ён як быццам бы хуткімі і лёгкімі штрыхамі-словамі замалёўвае ўбачанае і адчутае. Паэт пастаянна працуе і ўдасканальвае майстэрства словапісання. Не дарэмна адзін з яго-ных вершаў так і называецца "Акварэль". Уменне маляваць словам у далейшай сваёй творчасці паэт будзе імкнуцца напоўніць больш разнастайным пачуццём і новым сэнсам. А пакуль у першых зборніках ягоных вершаваных замалёўкі пераважна скіраваны на дакладнасць перадачы вобразу і арыгінальнасць паэтычнага малюнка.

Нельга прамінуць зварот Эдуарда Акуліна ў ранняй творчасці да яркай метафарычнасці і фармальных пошукаў у вершаскладанні. Паэт па-майстэрску інкрустуе свае вершы метафарамі, параўнаннямі, асацыяцыямі, актыўна выкарыстоўвае дакладныя вершаваныя формы, такія як санет, акраверш, трыялет, рондa, актава, тэрцыны. Паэт рупліва працуе над формаю верша, над складам, рытмам, рыфмаю і гучаннем слова, радка, усяго верша. Безумоўна вялікі ўплыў на творчасць Эдуарда Акуліна аказалі вершы Максіма Багдановіча, ягоная наватарская праца ў галіне беларускага вершаскладання. Але фармальныя пошукі Эдуарда Акуліна, выкананыя ў рэчышчы класічнага постмадэрнізму, падмацаваныя самабытнасцю ўласнага мыслення. І самае істотнае па духу, па светаўспрыманні - яны моцна зніта́ваныя з сучаснасцю, з новай эпохай, у якой яму выпала жыць.

Такім чынам, парасткі паэтычнай творчасці Эдуарда Акуліна, як мы бачым, заклалі далейшыя шляхі яе росту і развіцця. Творчая манера паэта, гучанне ягонага верша адразу вылучалася адметнасцю і арыгінальнасцю сярод паэтаў ягонага пакалення.

### IV.

У 1990-м годзе Эдуард Акулін з сям'ёй пераязджае на сталае жыццё ў Менск. Невялікая лясная палеская вёска Дуброва, дзе проста за плотам сядзібы паэта раслі баравікі, а на ганак дома пагрэцца з лаўжоў запаўзалі вужы, засталася ў мінулым, гэтаксама як шэсць гадоў працы настаўнікам беларускай мовы і літаратуры ў Дуброўскай васьмігадовай школе. У Менску Эдуард Акулін працуе загадчыкам філіі музея Максіма Багдановіча ў "Беларускай хатцы", дзе вялікі беларускі паэт жыў падчас свайго прыезду ў Менск у 1916 годзе.

Эдуард Акулін актыўна ўключаецца ў менскае культурніцкае жыццё. Ён часта выступае як паэт і як бард, спявае свае ўласныя песні на шматлікіх імпрэзах, сустрэчах і вечарынах. У Менску - буйны творчы асяродак, тут - сябры і знаёмыя. Але і не сказаць, каб Менск адразу стаў родным і блізкім для паэта. Эдуард Акулін не можа не параўноўваць свой мінулы спакойны сузіральны лад жыцця ў вёсцы з мітуслівым гарадскім побытам, і параўнанне ідзе не на карысць горада:
*Я адвык ад тваіх камяніц,*
*ад патрэсканай скуры вуліц.*
*Мне бліжэй цішыня старыц,*
*што падсвечваюць спеў зязюлін.*
*Я адвык ад тваіх вітрын,*
*сумятні і людскога тлуму.*
*Мне радней светлыя калін*
*з іх адвечна дзявочым сумам.*
(Горад, с. 137/1-8)

Пры чытанні гэтага верша прыгадваецца творчасць беларускіх паэтаў-лірыкаў Паўлюка Труса, Тодара Кляшторнага, якія ў 20-я гады ХХ-га стагоддзя таксама прыехалі з вёсак абжываць Менск, але паэзія якіх, ці їхняя творчая муза засталася блукаць па абшарах некранутай чалавекам беларускай прыроды. З'язджаліся тады яны, прываблены неонавым святлом менскіх вітрынаў, не прадчуваючы яшчэ, што неўзабаве крылы іхняя будуць бязлітасна спаленыя, а талент сцяты крывавым сярпом. Але ўсялякія міжчасовыя параўнанні вельмі ўмоўныя. Часы ўсё ж змяніліся, і талент Эдуарда Акуліна чакаў больш памысны лёс.

*(Працяг у наступным нумары.)*





# І ўбачыў руіны касцёла...

## (З гісторыі касцёла ў вёсцы Фашчаўцы)

У гістарычнай літаратуры паведамляецца некалькі дат узнікнення фашчаўскай святыні. Так, Караль Тамецкі і Канстанцін Бендаў, у сваёй кнізе "Гісторыя каталіцкага касцёла ў Фашчаўцы" сцвярджаюць, што касцёл быў пабudаваны ў 1637 - 1639 гадах. Прозвішчы першых місіянераў-езуітаў у Фашчаўцы, даследчык Ян Фібек пачынае пералічваць з 1651 года. А вось у кнізе Уладзіслава Завальнюка "Касцёлы царскай Расіі" згадваецца, што касцёл у Фашчаўцы заснаваны толькі ў 1654 годзе і асвечаны беларускім суфраганам Тавянскім. Галоўнае, падагульняючы пералічаныя даты, ўпэўнена можна сцвярджаць - каталіцкі асяродак у Фашчаўцы паўстаў не пазней сярэдзіны XVII стагоддзя.

У далейшым храналагічныя даведкі распавядаюць, што ў 1692 годзе завершана будаўніцтва драўлянага храма. Адбылося гэта дзякуючы намаганням Самуэля Косцюкевіча (о. Samuela Kosciukiewicza SJ), рэктара езуіцкага калегіюма ў Оршы.

У 1708 годзе, падчас Паўночнай вайны, касцёл быў абрабаваны маскоўскімі войскамі, і ў 1738 годзе пачынаецца будаўніцтва новага мураванага касцёла. І толькі праз 16 гадоў, у 1754 годзе, будаўніцтва храма завершана, таксама намаганнямі рэктара езуіцкага калегіюма, але ўжо Антонія Быкоўскага (о. Antoniego Bykowskiego SJ).

У гэтым жа годзе храм быў асвечаны ў гонар Унебаўзяцця Найсвяцейшай Дзевы Марыі. Гістарычныя крыніцы паведамляюць, што будоўлю храма таксама фундаваў уладальнік шклоўскага графства Адам Чартарыйскі. Менавіта Чартарыйскі ў 1776 годзе пабудаваў будынак для пражывання і дзейнасці манахаў-езуітаў. Такім чынам, узамен драўлянага касцёла ў Фашчаўцы ў сярэдзіне 18 стагоддзя паўстаў новы, велічны і прыгожы храмавы будынак разам з гаспадарчымі пабудовамі.

Як гаворыць легенда, цэглу на новы мураваны касцёл выраблялі на адлегласці 10 кіламетраў у Гарадзішчы, адкуль яна па ланцугу чалавечых рук перадавалася на пабудову храма. Знешне будынак касцёла ўяўляў сабою тыповую барокавую базіліку і меў форму правільнага крыжа, даўжыня - 51, шырыня - 35, вышыня - 28 аршынаў. Па баках дзве квадратныя мураваныя вежы, накрытыя бляхай, з жалезнымі крыжамі наверсе. Паміж вежамі фацыянта ў форме трохвугольніка, завершана невялікім крыжам, такімі крыжамі завершаны з трох бакоў канцы касцельнага даха. Па абодвух баках касцёла дзве двухпавярховыя рызніцы. Званіца мае два сярэдняй велічыны званы і сігнатурку.

У храме адзінаццаць алтароў. Галоўна алтар - мураваны. Другі алтар, з цудатворным абразом Найсвяцейшай Багародзіцы. На абраз павешаны залаты крыж, упрыгожаны каштоўнымі камянямі. Гэты абраз закрываецца другім абразом Найсвяцейшай Дзевы Марыі. Над абразом Божай Маці - абраз Сэрца Ісуса Хрыста, а зверху - абраз Святой Тройцы. Трэці алтар, з абразом Укрыжаванага Ісуса Хрыста, Божай Маці Журботнай і малая фігурка Дзіцятка Ісуса за шклом. Чатвёрты алтар, з абразамі Святога Францішка Ксаверыя, Святога Антона, Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Дзевы Марыі ў пазалочанай рызе. Пяты алтар, з абразамі Святога Язэпа, Апекуна Найсвяцейшай Сям'і. Шосты алтар, з абразом Святога пакутніка Яна Непамуцкага. Сёмы алтар, з абразамі Святых Ігнацыя Лаёлы, Станіслава Косткі і Сэрца Ісуса. Восьмы алтар, з абразом пакутніка Сымпліцыяна Рыцара з яго мошчамі. Уверсе абраз Святога Арханёла Міхаіла. Дзевяты алтар у выглядзе капліцы з вялікай фігурай Укрыжаванага Ісуса Хрыста. Дзесяты і адзінаццаты алтары перанасныя, з абразамі Сэрца Ісуса і Дзевы Марыі, Божай Маці Бялыніцкай і Святога Язэпа. Стацыі Дарогі Крыжовай Ісуса Хрыста - 14. Амбон сталярнай работы. Падлога ў касцёле бетонна-мазаічная.



*Касцёл ў Фашчаўцы паводле малюнка Н. Орды*

Плябанія - драўляны дом, накрыты гонтай, у якім 9 пакояў. Іншыя пабудовы: флігель для прыслугі, пуня, канюшня, хлеў для жывёлы, лядоўня, свіран, лазня, побач сажалка, гумно для збожжа, студня. Зямлі ўсяго каля 40 дзесяцін: пад могілак 8 дзесяцін ворыва, паміж землямі гаспадароў Кушалёўскага і Паўлыкоў - 5 дзесяцін ворыва і 4 дзесяціны хмызняку, луг у Янаве каля Дняпра. Святыня належыла да найвялікшых беларускіх каталіцкіх касцёлаў, была бачна панад лясамі з 15 кіламетраў, а пры добрым надвор'і і з аддаленага на 47 кіламетраў Магілёва.

Адзінаю выяваю касцёла ёсць малюнак Напалеона Орды, зроблены ў 1877 годзе. Малюнак суправаджаецца надпісам: "Касцёл паезуіцкі, закладзены ў 1754 годзе. Ксёндз Галкевіч". На адвароце дадаткова пазначана, што ў касцёле знаходзіцца абраз Маці Божай. На малюнку Н. Орды буйным планам паказаны прыгожы дзвюхвежавы трохнававы касцёл з трансептам, роўнавысокім цэнтральнай наве, і з фігурным франтонам на тарцах перакрыжаваных дахаў, пабудаваны ў стылі віленскага барока. Чатырох'ярусныя вежы касцёла мелі надзвычай маляўнічыя барочныя завяршэнні. Характэрна, што скразныя праёмы для званоў знаходзіліся даволі нізка, на другім ярусе, а трэці ярус, на ўзроўні франтона, быў глухі. У цэнтры франтона галоўнага фасада размяшчалася паўкруглая ніша-табернакула з скульптурнаю выяваю Дзевы Марыі. За алтарнай чысткай касцёла бачны аднапавярховыя мураваныя будынкі місіі езуітаў, пакрытыя вальмавымі дахамі. Тэтыторыя комплекса была акружана драўлянай агароджай з бярвенняў "у шулах" са сціплай брамкай "веснічкай".

Як ужо распавядалася, у касцёле захоўваліся (восьмы алтар) рэліквіі (мошчы) Святога Сымпліцыяна, Папы Рымскага першых стагоддзяў хрысціянства. На прыходскіх могілках, па сённяшні час, знаходзіцца цагляны пастамент з фігурай святога. Урачысты фашчаўскі фэст (прыстольнае свята) Знаходжання Святога Крыжа ("Здзвігі"), які адбываўся 14 верасня, сведчыць аб тым, што ў касцёле мусілі знаходзіцца таксама рэліквіі Святога Гасподняга Крыжа. Як было прынята ў тыя далёкія часы, самі парафіяне адпраўляліся да Рыма або да іншых хрысціянскіх святынь, каб займець святыя памяткі.

Але галоўнай асаблівасцю фашчаўскага касцёла быў цудоўны абраз Маці Божай і яе шанаванне ў фашчаўскай песні аб "Пані ў фашчоўскім абразе". Разам з гэтай песняй пачэснае месца займае ў фашчаўскіх абрадах песня "О мой Божа, веру Табе", якая была створана ў 1826 годзе ў прадбачанні забароны ўладамі Царкоўнай Уніі (Уніяцкая царква ліквідавана ў 1839 годзе), як свайго роду катэхізіс. На свята Наведвання Дзевы Марыі 2 ліпеня (пасля рэформы 31 траўня) ва ўрачыстай працэсіі асвячалася крыніца ў суседніх Княжыцах. Яшчэ вялікай пашанаю карысталася свята Ўнебаўзяцця Дзевы Марыі ("Прачыстая") 15 жніўня, якое пасля вайны ператварылася ў наведванне памёрлых на могілках недалёка на Дзяды і Радаўніцу.

Галоўнымі місіянерамі і ахвяравальнікамі святыні ў Фашчаўцы былі айцы-езуіты. Гэты манаскі ордэн (дакладная назва: Таварыства Езуса) паўстаў дзякуючы намаганням іспанскага шляхціца Ігната Лаёлы (абраз гэтага святога знаходзіўся ў сёмым алтары). Новаствораны ордэн паставіў перад сабой мэту спрыяць хрысціянскай адукацыі, выхаванню моладзі, дапамагаць у навучанні і духоўнасці будучых святароў. Менавіта на беларускіх землях манахі гэтага ордэна арганізавалі адзін з першых ва Усходняй Еўропе ўніверсітэт: у 1579 годзе ў Вільні, а пазней, у 1812 годзе, - у Полацку. Таксама калегіюмы ў Полацку, Нясвіжы, Пінску, Віцебску, Менску, Оршы, Магілёве, Гародні, Мсціславе, Чачэрску, Клімавічах і іншых мясцінах. Езуіты прымалі на навучанне ў свае калегіюмы і ўніверсітэты ўсіх ахвотных, незалежна ад іх нацыянальнасці і веравызнання. У часы русіфікацыі і паланізацыі дзякуючы іх стараннням не спынялася гучанне беларускай мовы і выданне беларускіх кніг. Да гэтага часу на Беларусі знаходзяцца велічныя храмы, бібліятэкі, навуковыя лабараторыі, творы мастацтва, якія з'явіліся тут дзякуючы менавіта айцам-езуітам .

Вось што паведамляла газета "Наша Ніва" ў кастрычніку 1908 года пра вёску Фашчаўка сучаснага Шклоўскага раёна: *"Тутака* (у Фашчаўцы) *скрозь жывуць беларусы, але ёсць і трохі ліцвінаў. Вось, у тутэйшым касцёле завёўся цяпер парадак, што казанні ксяндзы кажуць папольску, па-літоўску і па-беларуску; таксама спявае народ песні касцельныя ў гэтых трох мовах. Беларусы тутэйшыя, як пачулі першы раз казанні ў сваёй мове, дык ад радасці аж заплакалі".*

А вось як пісаў пра гэтую парафію ў першай палове XX стагоддзя святар Канстанцін Стаповіч, вядомы ў беларускай літаратуры як паэт Казімір Сваяк: *"Парафія гэта лацінскага абраду, але знаюць яе патомкі і тых Беларусаў, што калісьці з прымусу пакінулі Унію, пачывалі агіду да каЗёнішчыны. Кругом знішчажэнне, упад рэлігіі. А тут адпачывае чалавек... Стройны касцёл, найвялікшы на Беларусі, ёсць асяродкам парафіі. Вакол расселася дзевяць вёсак каталікоў. Кругом гавораць чыстай моваЙ беларускай. Айцы Езуіты калісьці далажылі вялікай працы, каб Беларус не страціў сваёй мовы. Выдалі яны беларускі катэхізм, навучалі па-беларуску, вучылі песняў... Хвашчоўка так добра перахавала свой беларускі характар, што сялянкі дагэтуль убіраюцца ў строі народныя. Люд тутэйшы аказаў дзіўную да веры прывязанасць... І сягодня яшчэ не зменшылася гэтая любоў да касцёла. Ідуць туды ахвотна, і не чуваць між імі жыцця распушчанага, немаральнага... Вялікія святы-фэсты збіраюць у Хвашчоўку цэлыя грамады Беларусаў, нават з мест далёкіх - бо далёка разышлася слава Дзевы Марыі Хвашчоўскай".* Менавіта Фашчаўка разам з Улай у Віцебскай губерні з'ядналіся дзвюма парафіямі ва ўсёй Беларусі, дзе на пачатку XX стагоддзя ўжывалася выключна беларуская мова. Ужо згаданы раней Ян Фібек у храналагічным парадку, пачынаючы з 1651 па 1820 гады, пералічвае прозвішчы 68 езуіцкіх місіянераў, якія працавалі ў Фашчаўцы.

Пасля забароны расійскімі ўладамі ордэна Таварыства Езуса, з 1822 года Фашчаўскі касцёл становіцца парафіяльным. Вядомы прозвішчы асобных пастараў фашчаўскай святыні. Крыніцы паведамляюць прозвішчы ксендза-дэкана П. Зялінскага і ксендза Антона Мацулевіча. У 1900 - 1902 гадах у парафіяй адміністраваў Павел Карповіч. Ад 1911 года пробашчам быў ксёндз Ян Баравік. У 1923 годзе згадваецца прозвішча Аляксандра Сака. З 1924 па 1928 - ксёндз Альбін Шаціла. У 1926 годзе апошні раз наведаў Фашчаўку біскуп - адміністратар Магілёўскай архідыяцэзіі Баляслаў Слонскак. Апошнім фашчаўскім святаром у перадваенны час быў Пётр Януковіч.



*Фотаздымак касцёла ў Фашчаўцы ў пасляваенны час*



*Крыж на месцы былога касцёла*

У хуткасці пачынаюцца жудасныя гады ваяўнічага атэізму. Былі арыштаваны і расстраляны Ян Баравік, Альбін Шаціла. Арыштавалі і саслалі ў Вятку Паўла Карповіча. 13 чэрвеня 1937 года, падчас апошняй традыцыйнай пілігрымкі, калі большасць жыхароў адправілася на свята Святога Антонія да Магілёва, "невядомыя" разбілі і абрабавалі абраз Божае Маці з касцельнага алтара. А потым "за касцёл" былі ўзяты ксёндз Пётр Януковіч, арганіст Марцін Сякацкі, старшыня касцельнага камітэта Ігнат Давідовіч, бацька і сын Крупенькі, і яшчэ 9 іншых парафіянаў. Пасля працэсу, што апісваўся ў шклоўскіх газетах, яны былі расстраляны на працягу тыдня.

Пасля вайны ўлады спрабавалі зрабіць у касцёле клуб, але з-за агульнага супраціву жыхароў ідэя была часова пакінута. Аднак ў пачатку 60-х гадоў тагачаснаму кіраўніцтву вельмі карцела ўсё знішчыць, што не адпавядала "истинно русской истории". І вось 24 снежня 1967 года велічны будынак у Фашчаўцы быў узарваны. Па ўспамінах мясцовых жыхароў: "Касцёл лёгка ўзняўся і апаў. Снег быў чырвоны, быццам ад крыві, ад цаглянога пылу". А потым, на мурах касцёла, нібыта з'явілася Божая Маці, якая плакала.

Шмат каго ўсхвалявала тое варварства. Прыгадаем артыкул Яўгена Меркушэвіча-Саськаўскага "Рэквіем фашчаўскаму касцёлу", змешчаны ў раённай газеце "Ударны фронт". Аўтар пісаў: *"Прайшоў праз лясок і ўбачыў вялікую кучу цэглы і смецця - гэта былі руіны касцёла. Вёска Фашчаўка выдалася не той. Стаялі маленькія, убогія хацінкі, пуні, хадзілі куры, рыкалі каровы, снавалі людзі. Але гэта здавалася шэрым, змрочным, бессэнсоўным і нікому непатрэбным. Я заплакаў...".* На прыканцы артыкула артыкула аўтар піша вершаваныя радкі:

*И я прошу: прости нас, Боже,*
*Мы в чем-то виноваты тоже,*
*Что не смогли*
*тот храм спасти.*
*Прости нас, Господи, прости.*

Гэтую людскую споведзь можна лічыць як рэквіем усім хрысціянскім святыням знішчаным на Шклоўшчыне.

Аднак вера ў Бога ў Фашчаўцы не знікла. На прыканцы 80-х гадоў парафія нанава аднавілася. На месцы, дзе некалі знаходзілася святыня, ўзнёсся памятны крыж. Для стварэння капліцы кіраўніцтва мясцовай гаспадаркі перадало вернікам будынак. Далёка яшчэ да таго, каб, як у лепшыя часы, было ў Фашчаўцы больш за 3000 вернікаў. Між тым, вось ужо чацвёртае стагоддзе, параненайшаму, гучаць над Фашчаўкай вечныя словы малітвы: "Ойча наш, каторы ёсць у небе, свяціся імя Тваё, прыдзі валадарства Тваё, будзь воля Твая… "

***Аляксандр Грудзіна,***
*Шклоўская раённая арганізацыя ТБМ імя Ф. Скарыны.*

# 2013 год у ТБК

Вось і зараз, у чаканні аднаго з самых важных святаў жыцця, перагортваем яшчэ адну старонку ўласнага летапісу. Якім быў гэты год? Вядома, для кожнага сваім, розным і непаўторным. Адным адыходзячы год прынёс радасцяў, дасягненняў, іншым стратаў і расчараванняў. Такое ўжо чалавечае жыццё. Але ў любым выпадку ён ужо стаў гісторыяй. У чаканні ж наступнага года ва ўсіх спадзяванні, што той будзе лепшым, чым мінулы.

Прабеглы год быў значным на падзеі і ў жыцці Таварыства беларускай культуры ў Літве, галоўнай з якіх стала правядзенне V канферэнцыі Беларусаў Балтыі і замежжа, якая праходзіла 6-7 красавіка 2013 г. у Вільні. У ёй прынялі ўдзел прадстаўнікі Літвы, Латвіі, Эстоніі, Чэхіі і Беларусі. Арганізаваў і правёў канферэнцыю старшыня Таварыства беларускай культуры ў Літве Хведар Нюнька. Ён у гэты час таксама адзначыў сваё 85-годдзе. У часе працы канферэнцыі былі выпрацаваныя і прынятыя тэксты рэзалюцыі і зваротаў у розныя інстытуцыі краінаў ЕС і Беларусі, якія засведчылі ўрадам гэтых краінаў, што беларусы не проста існуюць у гэтых дзяржавах, але таксама "хочуць людзьмі звацца".

Самым багатым на падзеі ў жыцці арганізацыі быў сакавік. Як вядома, 25 сакавіка адзначаецца самае вялікае беларускае свята - Дзень абвяшчэння БНР. Вядома, мы не былі ў баку. Варта адзначыць, што ўжо цягам некалькіх гадоў сталася добрай традыцыяй гэты дзень святкаваць усім беларускім арганізацыям разам, нягледзячы на розныя палітычныя погляды, уласныя перакананні. Урачыстае святкаванне 95 гадавіны пачалося з ускладання вянка і кветак да магілы братоў Луцкевічаў на Віленскіх могілках Росы. Менавіта Луцкевічы належылі да тых, хто тады, 95 гадоў таму спрычыніўся да абвешчання БНР. Прыйшла зусім невялікая колькасць людзей, якая падкрэсліла, што беларускае грамадства Вільні з кожным годам усё больш і больш абыякава ставіцца да сваіх нацыянальных святаў. Ля ўмоўнай магілы братоў Луцкевічаў выступілі Кірыл Атаманчык, Хведар Нюнька, Станіслаў Шушкевіч... Усе яны адзначылі важнасць гэтага свята і выказалі спадзяванне на адраджэнне Беларусі. Затым увечары ў Віленскай Ратушы адбылося ўрачыстае святкаванне ўзгаданай падзеі. На вечарыне прысутнічалі як беларуская, так і літоўская палітыкі. Сярод прысутных былі: мэр Вільні Артурас Зуокас, чалец літоўскага Сойму Гедымінас Кіркілас, чалец літоўскага Сойму Эмануэліс Зінгерыс, Саўлюс Печэлюнас, Стасіс Каўшыніс, Станіслаў Шушкевіч, Хведар Нюнька, Аляксандр Каўбаска і інш. Святочнае мерапрыемства завяршылася канцэртам фальклорнага гурта "Akapa NHS", які адкрыў свет тысячагадовых беларусаў з іх вераваннямі, традыцыямі, легендамі, паданнямі.

Ужо далёка не першы год стала адзначаюцца ўгодкі смерці нацыянальнага героя, ахвяраваўшага сваё маладое жыццё дзеля свабоды Бацькаўшыны Кастуся Каліноўскага, якія беларускія віленчукі і госці Вільні ўшанавалі 23 сакавіка. Урачыстыя мерапрыемствы распачаліся з Паніхіды за Кастуся Каліноўскага ў грэка-каталіцкай царкве Св. Тройцы ў Вільні. Паніхіду адслужыў грэка-каталіцкі святар з Беларусі а. Андрэй Крот. Затым распачалося ўрачыстае шэсце ад месца пакарання смерцю Кастуся Каліноўскага на Лукішскім пляцы да яго ўмоўнай магілы на гары Гедыміна.

Гэтым летам, 23-24 ліпеня ў Менску адбыўся VI з'езд Беларусаў свету ў якім прынялі ўдзел 239 дэлегатаў і 95 гасцей з 18 краін замежжа і самой Беларусі. Ад беларусаў Літвы - 11 чалавек, з іх 4 - дэлегаты ад нашага ТБК.

2 лістапада адзначаюцца Дзяды - дзень памяці продкаў. Сябры Таварыства таксама не засталіся ў баку і 2 лістапада на віленскіх могілках разам з іншымі беларусамі наведалі магілы адышоўшых у вечнасць беларусаў і памаліліся за супакой іх душаў.

Традыцыяй сталася адзначаць Дзень Герояў (Слуцкае паўстанне) у нашым Таварыстве. Гэтым разам таксама не абмінулі гэтай даты, і імпрэза за 30 лістапада была прысвечана гэтай падзеі.

А заканчэнне года ў Таварыстве адсвяткавалі беларускімі Калядамі. Гэтым разам у госці да нас завіталі не толькі беларусы, але і прадстаўнікі рускага і ўкраінскага народаў. Святкаванне Калядаў адбывалася з удзелам ксяндза Данілы, якія ўвесь гэты святочны вечар прысвяцілі нам. А ў сядзібе Таварыства была адпраўлена Калядная Служба.

Варта адзначыць, што цягам года ў Таварыстве пабывала шмат знакамітых асобаў, сярод іх Зянон Пазьняк, Алесь Краўцэвіч, Юры Беленькі, Уладзімір Арлоў, Радзім Гарэцкі, Генадзь Бураўкін і шмат іншых.

Больш падрабязную інфармацыю знойдзеце на нашым сайце: www.westki.info/tbk, які заклікаем наведваць, а таксама і дасылаць свае матэрыялы.

Напрыканцы хочацца павіншаваць усіх са Святамі і пажадаць, каб наступны год быў не горшым за папярэдні.

***Алесь Адамковіч,***
*доктар гуманітарных навук.*

# Калядны цуд сваімі рукамі



Каляды! Вочы дзяцей гараць чаканнем цуду. Бляск мішуры, водар ёлкі, смак цукерак, маскі, касцюмы… У кожнага з нас свае калядныя ўспаміны. Як жа зрабіць Каляды незабыўнымі і для нашых дзяцей?

Экскурсіі, паездкі, аніматары ў кавярнях ды рэстарацыях, ёлкі ў ДК і тэатрах і карпаратывы на працы ў бацькоў, Дзед Мароз на дом - хто толькі не прапануе калядны цуд па малых ці вялікіх коштах. Вакол дзяцей пануе імпрэзава-падарункавы вір, настолькі шчыльны, наколькі дазваляе бацькоўская кішэня. А самі дзеці? Мы адводзім ім ролю спажыўцоў: прыйдзі, апрані, сядзь, еш, глядзі, не чапай, не марнуй… Нам гэта зручна, бо не трэба нічога выдумляць, важдацца, клапаціцца. Прасцей купіць дзецям свята.



Аднойчы на бацькоўскім сходзе адна маладая настаўніца папрасіла бацькоў зрабіць з дзецьмі дома па тры сняжынкі. Бо яна не ўмее. Дзеці таксама не ўмеюць… Адзін тата абяцаў надрукаваць на прынтары, каб дзеці выразалі. Паміж намі, выцінанка (выразанне з паперы) - традыцыйнае мастацтва беларусаў. Але нічога, мы і гэта купім, калі ўжо школа хоча сняжынкі на вокны.

А для цуду трэба так мала! Напрыклад, купіце каля 30 м стужкі з беларускім арнаментам - гэта паясы для хлопчыкаў і нагалоўнікі для дзяўчат. Дома ёсць бубен, а ў кабінеце музыкі - драўляная трашчотка? Пазычце ў знаёмых немаўлят пару бразготак, і вясёлы шумавы аркестр гатовы. А можа, у вашым класе расце скрыпач ці флейтыст - вось і музыка ёсць!.

Фарбы, ніткі і крыху цярпення ператвораць некалькі аркушоў кардону ў маскі Казы, Мядзведзя, а на кійку зазіхціць фальгой і светлады-ёднымі іскрамі калядная Зорка. Ага! Не забудзьцеся пра яркі трывалы мяшок (метр тканіны, шлейкі са старога замка-маланкі, матузок, каб зашмаргнуць, і кравецкі досвед пяцікласніцы дапамогуць быць на вышыні).

А калі нечая бабуля зранку напячэ смачных аладак…

Ці доўга дамовіцца з настаўніцай музыкі, каб навучыла дзяцей хоць адной каляднай песні. На сайтах www.dzietki.org, www.nastaunik.info ці іншых лёгка адшукаць сцэнар (традыцыйны альбо сучасны, адаптаваны для лёгкага ўспрыняцця сёняшнімі дзецьмі, якім "дзясятка" ў дзённіку" бліжэй ад "жыта капой"). На ўвесь клас - гэта літаральна па 2-4 радкі, ненапружна і не патрабуе шматлікіх рэпетыцый.

Напярэдадні завітае настаўніца да сваіх калег, намякне, каб чакалі ды рыхтавалі пачастункі…

І вось ён, цуд! Цэлы клас артыстаў адразу нясмела ды сарамліва, а потым усё весялей гамоніць, жартуе, спявае, а цэлы клас гледачоў спачатку напружана ўслухоўваецца, а потым рагоча з Казы ды Мядзведзя, хвалюецца, што навароджаць цыганкі, мацуецца аладкамі, дзеліцца цукеркамі, з удзячнасцю прымае зычэнні і хорам крычыць на развітанне такое нязвыклае, але такое натуральнае: "Дзякуй!"

Гэты просты рэцэпт каляднага цуду добра ведаюць у менскай гімназіі № 29. Гадаванцы Юліі Мікалаеўны Карака, Тацяны Фамінічны Астроўскай, Алены Леанідаўны Жылко шмат разоў здзіўлялі і радавалі яркімі імпрэзамі і аднагодкаў, і настаўнікаў. Нават завуч Любоў Піліпаўна Раднёнак і дырэктар Віктар Васільевіч Пшыкаў неаднойчы прымалі калядоўшчыкаў у сваіх кабінетах. А якія смачныя цукеркі, зробленыя такой вясёлай супольнай працай!

І колькі б "хат" - кабінетаў не абышла вясёлая чарада, застаюцца заўсёды ў дзяцей два нязменных пытанні: 1) чаму так мала выступалі? і 2) калі пойдзем наступны раз?

І гэты дотык да традыцый, гэты цуд, створаны супольна, запомніцца ім больш за чарговыя кока-колу з бульбай фры.

***Алена Церашкова.***

# САКРАМЭНТА

"САКРАМЭНТА" - такую назву мае кніга Галіны Багданавай. Пісьменніца нарадзілася 31 студзеня 1961 года у Крычаве ў сям'і пісьменніка Барыса Сачанкі. Скончыла факультэт журналістыкі БДУ і аспірантуру Беларускай акадэміі мастацтваў. З дня стварэння больш за 20 гадоў працавала ў часопісе "Мастацтва", у аддзеле прозы часопіса "Полымя", у часопісе "Першацвет", выкладала гісторыю мастацтва і спецпрадметы ў сярэдніх спецыяльных і вышэйшых навучальных установах.

Аўтар некалькіх кніг прозы, паэзіі для дзяцей, п'ес, кінасцэнарыяў, шматлікіх артыкулаў і мастацтвазнаўчых эсэ.

Кніга "Сакрамэнта" выйшла ў выдавецтве "Медысонт". Яе наклад 500 асобнікаў. Мастаком вокладак з'яўляецца Яўген Мальдзіс.

Асабіста я прачытаў кнігу за адзін дзень! Мне вельмі спадабаліся апавяданні: "Вожык", "Кінатэатр", "Кастрычнік", "Кветка адчаю", "Бульба з хрэнам..."

Аўтарка піша вельмі таленавіта. Адчуваецца добрае веданне жыцця... Аповесць "Сакрамэнта" з'яўляецца ўпрыгожваннем літаратурна-мастацкага выдання.

Шкада, што творчасць спадарыні Галіны не вывучаецца ў школьнай праграме!

Хачу павіншаваць славутую пісьменніцу з Днём нараджэння! Жадаю моцнага-моцнага здароўя, шчасця, радасці, новых кніг і артыкулаў, а таксама здзяйснення творчых мар і задум!



*Аляксей Шалахоўскі, гісторык, журналіст.*

***Рэдактар Станіслаў Вацлававіч Суднік***

***Заснавальнік:***
ТБМ імя Францішка Скарыны.
***Пасведчанне аб рэгістрацыі*** № 908 ад 18 снежня 2009 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
***Адрас рэдакцыі:***
231293, Лідскі р-н, в. Даліна.
***Адрас для паштовых адпраўленняў:***
231282, г. Ліда-2, п/с 7.
***E-mail:*** naszaslowa@tut.by



**http://nashaslova.mns.by/ http://pawet.net/**
**http://kamunikat.org/ http://tbm-mova.by/**

***Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі***

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г. Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 6.01.2014 г. у 10.00. Замова № 2.
Аб'ём 2 друкаваныя аркушы. Наклад 2000 асобнікаў.
***Падпісны індэкс:*** 63865.
***Кошт падпіскі:*** 1 мес.- 5600 руб., 3 мес.- 16800 руб.
***Кошт у розніцу:*** па дамоўленасці.